10 чэрвеня 2016 | № 23 (488)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

«Дакар» па-беларуску

стар. 10

**5 МІНГАНДЛЮ СУПРАЦЬ КАВЯРНІ: ПРАЦЯГ КАНФЛІКТУ**

Гісторыя пра прадпрымальніцу Таццяну Аляхновіч разышлася па інтэрнэце: дзясяткі абураных чытачоў пакідалі каментары пра кантралёраў з Мінгандлю і пісалі словы падтрымкі жанчыне. Чым жа ўсё скончылася?



**6–7 НА РУСКУЮ ПЕРАХОДЖУ СА СКЛАДАНАСЦЯМІ**

Гэтым разам пра свой шлях да беларускай мовы распавядаюць вядомы музыка, ландшафтны дызайнер ды спецыяліст па турызме — удзельнікі «Перапісу насельніцтва», арганізаванага папулярнымі курсамі беларускай мовы «Мова Нанова»

**9 ЧАГО ЧАКАЦЬ АД ЕЎРА–2016?**

У Францыі стартуе чэмпіянат Еўропы па футболе, які стане падзеяй не толькі спартовай, але культурнай, і нават палітычнай



**11 БЕЛАРУС НА ТРОНЕ АНДОРЫ**

Авантурнік маштабу Астапа Бендэра, жыццё якога і сёння застаецца таямніцай. Ён называў сябе «белым рускім, родам з Вільні» і застаўся ў гісторыі як першы і апошні кароль Андоры

# Як затроліць уладу

**Выбары даюць шанец. Але не палітыкам, а грамадзянам**



Сяргей ПУЛЬША




У адпаведнасці з указам Лукашэнкі ад 6 чэрвеня №190, выбары ў Палату прадстаўнікоў прызначаны на 11 верасня. Дакумент ужо размешчаны на Нацыянальным прававым партале, а значыць, набыў юрыдычную моц. Застаецца галоўнае пытанне: што рабіць?

Зараз усім зразумела, што выбары, нягледзячы на паўсюдныя заявы аб «дэмакратызацыі» і «ўліку прапаноў АБСЕ», пройдуць як звычайна. На іх будуць толькі дзве істотныя навацыі: адмова ад парогу яўкі на галасаванне ў 50% — пераможца зараз будзе вызначаны большынёй прагаласаваўшых; і Ярмошына абяцае, што сябры камісій не будуць засланяць сваімі філейнымі часткамі стол для падліку галасоў.

У астатнім сцэнар ранейшы. Лукашэнка перад гэтай палітычнай кампаніяй шматкроць нагадваў, што яна павінна прайсці спакойна і традыцыйна, то бок як заўсёды. З 1994 года міжнародная супольнасць ніводных выбараў у Беларусі за свабодныя і дэмакратычныя не прызнала. Гэта і ёсць «як заўсёды». І яшчэ кіраўнік дзяржавы дадаў, што не менш за траціну ў парламенце будзе «старых» дэпутатаў. Так што ўжо зараз вызначана, хто ў парламент патрапіць, а хто не.

У сувязі з гэтым удзел у парламенцкіх выбарах становіцца практычна бессэнсоўным. Праўда, ён губляе сэнс толькі для тых, хто наіўна марыць стаць дэпутатам. Астатнім жа ёсць дзе разгарнуцца.

Ва ўмовах адсутнасці выбараў, гэтая дзея ператвараецца ў палітычны працэс. Апазіцыя ўжо вырашыла ў ім удзельнічаць, і нават уцямна патлумачыла, навошта. Зараз, ва ўмовах эканамічнага калапсу, палітычная кампанія — лепшы чыннік для прасоўвання ў масы альтэрнатыўных ідэй. Улады нічога новага, апроч «абы не было вайны», запрапанаваць не могуць. Самы час перацягваць электарат на свой бок.

Канешне, «пашырэнне дэмакратычнага электарату» і шэрагу сваіх прыхільнікаў было мэтай усіх апошніх выбарчых кампаній, пачынаючы ад 2012 года. І штосьці не вельмі гэтае кола пашыралася. Аднак зараз ёсць магчымасць для другой ступені гэтай дзеі: сфармаваць і «прагнаць» праз выбарчую кампанію каманды новых лідараў. Гэта для іх, новых лідараў, — выдатная загартоўка на будучыню.

А вось хто насамрэч павінен разгарнуцца, дык гэта так званы «трэці сектар» і тая грамадзянская супольнасць, парасткі якой у нашай краіне пакрысе прабіваюцца праз аўтарытарны асфальт.

Як вядома, падчас выбараў усе пытанні палітызуюцца, і гэтым грэх не скарыстацца. Неаднаразова былі выпадкі, калі грамадзяне, дзеля вырашэння сваіх праблем, выстаўлялі ўладам своеасаблівы ўльтыматум: не вырашыце праблему — не пойдзем галасаваць. І пытанне вырашалася.

Ад такога прымітыўнага шантажу ўладаў трэба пераходзіць да больш сістэмных дзеянняў. У краіне шмат ініцыятыў, якія збіраюць подпісы «супраць» і «за»: за добраўпарадкаванне тэрыторый, за будаўніцтва бальніц і школ, супраць высечкі лясоў і будавання свінакомплексаў... Выбарчая кампанія дае выдатны шанец пашырыць гэтую працу, улічваючы, што для вылучэння кандыдата ў дэпутаты патрэбная тысяча подпісаў. Ніхто не забараняе стварыць у сябе «кандыдата ў кандыдаты» і, разам з подпісамі за яго, збіраць подпісы і за вырашэнне набалелай праблемы. У любым выпадку, аўтографы грамадзян не прападуць.

> **Асаблівую ўвагу трэба надаць тым, хто балатуецца ў парламент другі раз**

І ніхто не перашкаджае скарыстоўваць для гэтага і дэмакратычных кандыдатаў у парламент. Гэтае своеасаблівае ноў-хаў апрабаваў намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч, калі на апошнім пікеце за вылучэнне кандыдаткай на прэзідэнта Таццяны Караткевіч збіраў подпісы пад «Народным рэферэндумам». Бо ніхто ж не забараняе збіраць подпісы сярод саміх пікетоўшчыкаў, праўда?

Жыхары мінскага мікрараёна «Зялёны луг» сабралі 3557 подпісаў супраць знішчэння парку на Цнянскім вадасховішчы. Гэта ў тры разы больш, чым патрэбна для вылучэння кандыдата ў парламент. Трэба казаць «бэ» — стварыць ініцыятыўную групу кандыдата і прайсці па людзях, што ўжо падпісаліся, яшчэ раз. А кандыдат у дэпутаты — гэта ўжо тая фігура, якая мае шанец ціснуць на мясцовыя ўлады, прымушаючы іх спыніць альбо хаця б прыпыніць будаўнічыя працы. Бо раптам ён пройдзе ў парламент? Тады ад праблем не адмахаешся...

І асаблівую ўвагу трэба надаць тым, хто балатуецца ў парламент другі раз, у спадзяванні патрапіць у вызначаныя Лукашэнкам 30%. Вось гэтых людзей трэба масава «троліць». Ёсць такое вызначэнне ў інтэрнэце, якое азначае правакаванне на дыскусію, прычым зусім не карэктнымі сродкамі. У дадзеным выпадку варта ведаць, што «паўторны» кандыдат у Палату прадстаўнікоў усё яшчэ з'яўляецца дзейсным дэпутатам гэтага органа. А таму варта патрабаваць ад яго не толькі адказнасці перад выбаршчыкам за ўжо прынятыя рашэнні, але і садзейнічання ў вырашэнні наяўных праблем. Хай наўпрост накіроўвае дэпутацкі запыт па існуючай праблеме — ён мае на гэта паўнамоцтвы.

Калі праявіць фантазію, можна знайсці яшчэ з тузін спосабаў зрабіць гэтую кампанію хаця б карыснай. Актывістам самы час дзейнічаць.

# За каментар — пад суд

Ксенія ЛІТВІНОЎСКАЯ

**У судзе Мінскага раёна распачаўся разгляд адміністрацыйнай справы за абразу ў інтэрнэце. Адказчыкам з'яўляецца прадавец Алена Максімава. А пацярпелым — намеснік гендырэктара ЖКГ Мінскай вобласці Валерый Хахлоў.**

Група ў кантакце «Бараўляны. Абарона леса» змясціла яго фота падчас сустрэчы з жыхарамі, якія пратэстуюць супраць вырубкі лесу. Адзін з каментароў настолькі абурыў чыноўніка, што ён звярнуўся ў міліцыю. Праваахоўнікі ініцыявалі справу па артыкуле 9.3 КаАП («Знявага»).

У групе абмяркоўваўся канфлікт, звязаны з пракладкай ліўневай каналізацыі праз стары лес у Бараўлянах. Жыхары Бараўлян пратэстуюць супраць гэтага, і 28 красавіка яны блакавалі праезд лесапільнай тэхніцы. На месца канфлікту прыязджаў Валерый Хахлоў, які пераконваў жыхароў адмовіцца ад сваіх планаў.

У судовым працэсе, які распачаўся 2 чэрвеня, Алена Максімава заявіла пра парушэнні пры складанні адміністрацыйнага пратакола. У прыватнасці, міліцыянты не бралі ў яе на абследаванне ніякай тэхнікі, не ўказалі IP-адрас, з якога было адпраўлена паведамленне, не рабілі запыт адміну ў кантакт, не праводзілі лінгвістычнай экспертызы. Сам каментар даслоўна не прыведзены. Зараз ён выдалены. Адказчыца запатрабавала адправіць справу на дапрацоўку.

Аднак суддзя Сяргей Ткачук не задаволіў гэта хадайніцтва. Як і адмовіў у тым, каб кіраўнік аб'яднання «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак быў абаронцам Алены Максімавай у судзе. Спаслаўшыся на тое, што прадстаўляць інтарэсы ў судзе можа толькі адвакат.

«Зноў парушаецца канстытуцыйнае права грамадзян мець свайго прадстаўніка ў судзе, — адзначыў Алег Волчак. — А таксама гэта парушэнне міжнароднага права».

Алег Волчак лічыць справу прэцэдэнтам: «Выпрацоўваецца механізм прыцягнення грамадзян за выказванні на форумах. Каб не агучвалі сваё меркаванне, не дзяліліся інфармацыяй, баяліся. А сам факт прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці — гэта маральныі матэрыяльны ціск на грамадзяніна».

На пасяджэнні 6 чэрвеня было прынята рашэнне выклікаць у суд супрацоўніка міліцыі, які рыхтаваў матэрыялы справы. Наступны разгляд справы адбудзецца 17 чэрвеня.

# Аднавіць сядзібу

Марат ГАРАВЫ

**У Беразіно адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Гістарычна-культурны патэнцыял Бярэзіншчыны. Захаванне і аднаўленне сядзібы Патоцкіх», прысвечаная 515-м угодкам першай летапіснай згадкі пра горад.**

Арганізатарамі выступілі інфармацыйна-асветніцкая ўстанова «Офіс развіцця экалагічна-краязнаўчых ініцыятываў» і аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Бярэзінскага райвыканкаму пры падтрымцы аргкамітэта Мінскага гарадскога таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага і грамадская Інстытута беларускай гісторыі і культуры (Рыга, Латвія).

У канферэнцыі бралі ўдзел прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі, а таксама археолагі Вадзім Кошман і Мікола Плавінскі, архітэктар-рэстаўратар Зміцер Савельеў і загадчыца Літаратурнага музею Петруся Броўкі Наталля Мізон.

У горадзе захаваўся выбітны помнік архітэктуры нацыянальнага значэння — класічная двухпавярховая мураванка першай паловы XIX стагоддзя на правым беразе Беразіны, умацаваным бутавай падпорнай сценкай. У гэтым будынку, што патрабуе неадкладнай кансервацыі і рэстаўрацыі, некалі знаходзілася сядзіба графоў Патоцкіх, затым школа і склад.

З сядзібай мясцовая інтэлігенцыя звязвае будучую музейную экспазіцыю — прысвячэнне выбітным ураджэнцам краю: мастакам братам Гараўскім, прадстаўнікам старажытных беларускіх родаў Ваньковічаў і Свентаржэцкіх — удзельнікам паўстання Кастуся Каліноўскага, а таксама кампазітару, дырыжору і музычнаму крытыку Міколе Равенскаму і літаратуразнаўцы-дысідэнту Міколу Прашковічу.

На канферэнцыі ішла гаворка пра неабходнасць зменаў у праект рэстаўрацыі будынку для яго прыстасавання пад музей, пра стварэнне ініцыятыўнай групы грамадзян, якія б гэтым заняліся, зважаючы на сусветны досвед стварэння музейнай экспазіцыі.

Таксама ўздымалася пытанне пра поўную інвентарызацыю помнікаў археалогіі Бярэзіншчыны для іх належнай аховы, даследавання і выкарыстання ў адукацыйна-выхаваўчых мэтах.

Матэрыялы канферэнцыі мяркуецца выдаць асобным зборнікам у серыі «Запісы таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага».

# Спыніць ціск на Андрэя Бандарэнку

Сяргей ПУЛЬША

**Шэраг вядомых беларускіх юрыстаў і актывістаў заклікалі спыніць ціск на вязня сумлення, праваабаронцу Андрэя Бандарэнку, які зараз адбывае пакаранне ў турме №4 Магілёва.**

Адпаведная заява накіравана генеральнаму пракурору, начальніку Дэпартамента выканання пакаранняў МУС Беларусі, а таксама ў адрас прадстаўніцтва ЕС у Беларусі і шэраг міжнародных арганізацый.

Як паведаміў НЧ былы суддзя Канстытуцыйнага суда Беларусі Міхаіл Пастухоў, заява выклікана пагаршэннем умоў утрымання Андрэя Бандарэнкі ў турме. Ад бацькі асуджанага, а пазней і з ліста самога Бандарэнкі, стала вядома, што 13 мая яму было вынесена дысцыплінарнае спагнанне за парушэнне рэжыму, а менавіта за тое, што ён у дзённы час прылёг на ложак. Пасля абвяшчэння спагнання ў камеры Бандарэнкі ўсталявалі відэаназіранне, на прагулкі сталі выводзіць у кайданках і ў суправаджэнні вартавога з сабакам. Паводле турэмных правілаў, ён на год пазбавіўся права на атрыманне рэчавых перадач, а таксама на спатканне з роднымі і блізкімі.

Акрамя таго бацька асуджанага Валер Бандарэнка паведаміў, што з пачатку 2016 года яго сын, які знаходзіцца ў адзіночнай камеры, усё роўна працуе — клеіць канверты. Пасля кансультацыі са спецыялістамі бацька лічыць, што выкарыстанне клею ў замкнёнай прасторы пры сталым яго ўдыханні шкодзіць здароўю і можа прывесці да таксікаманіі. У бацькі вязня ўзнікла падазрэнне, што гэтая праца была прадастаўлена сыну спецыяльна для засмучэння стану яго здароўя, якое ў апошні час і так значна пагоршылася.

Адначасна Валер Бандарэнка звярнуў увагу і на той факт, што накіраваная ім на адрас сына бандэроль з дазволенымі лекамі і вітамінамі была затрыманая адміністрацыяй са спасылкай на тое, што для атрымання вітамінаў патрабуецца рэцэпт. Пазней іншым лекарам была дадзена згода на перадачу вітамінаў без рэцэпту.

«На нашу думку, такія ўмовы адбыцця пакарання падпадаюць пад прыкметы катаванняў, указаных у артыкуле 1 «Канвенцыі супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных ці прыніжаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання», зацверджанай рэзалюцыяй 39/46 Генеральнай Асамблеі ААН ад 10 снежня 1984 года», — зазначыў Пастухоў.

Пад зваротам падпісаліся юрысты Міхаіл Пастухоў, Аляксандр Дабравольскі, Алег Волчак, Ігар Рынкевіч, Юрый Ваўчок, а таксама грамадскія актывісты Ілля Дабратвор, Ганна Шапуцька, Кацярына Садоўская, Валер Шчукін. Падпісанты выказалі пратэст у сувязі з дыскрымінацыйнай палітыкай у дачыненні да праваабаронцы Андрэя Бандарэнкі і запатрабавалі ад уладаў Рэспублікі Беларусь забяспечыць для яго нармальныя ўмовы адбыцця пакарання.

# Дзіцячы садок выратавалі

Зінаіда ЦІМОШАК

**Напрыканцы мая бацькі дзетак, што наведвалі праснакоўскі дзіцячы садок, былі пастаўлены перад фактам, што з 1 чэрвеня ён зачыняецца. Але бацькі не здаліся, а пачалі сваё змаганне.**

Вёска Праснакі — цэнтр сельскагаспадарчага прадпрыемства ААТ «Праснакі». Месціцца на ўскрайку Капыльскага раёна ў 20 кіламетрах ад райцэнтра. Тут жывуць больш за 300 чалавек. З сацыяльных установаў у вёсцы да гэтага часу існавалі толькі крама «Родны кут» і невялікі дыхтоўны двухпавярховы дзіцячы садок.

На бацькоўскім сходзе прадстаўнікі раённага аддзела адукацыі нечакана агучылі рашэнне Капыльскага райвыканкама аб ліквідацыі дзіцячага садка.

— У нас цудоўны дзіцячы садок, цёплы і ўтульны, — кажа Жана Сіманові, маці дваіх дзяцей. — Адчынілі яго ўсяго 4 гады таму. Тады сад наведвалі толькі чацвёра дзяцей. Выдаткавана шмат грошай на мэблю і абсталяванне. Адкрыццё садка было святам для вёскі і раёна. Нават губернатар прыязджаў. Зараз садок наведваюць шасцёра дзетак, я і яшчэ адна маці таксама збіраліся аддаць сваіх дзяцей. Было б восем...

Чым жа не дагадзіў чыноўнікам праснакоўскі дзіцячы садок? Аказваецца, зачыніць яго вырашылі з-за малакамплектнасці. Замест гэтага бацькам прапануецца вазіць дзяцей за шэсць кіламетраў у Грозава. Там будзе створана група на базе Грозаўскай агульнаадукацыйнай школы. Чаму ў школу? Таму што будынак дзіцячага садка ў Грозаве даўно знаходзіцца ў аварыйным стане. Але і грозаўская школа зусім не прыстасаваная для маленькіх дзяцей. Кажуць, прапанаваныя пад садок класы цёмныя і халодныя, няма ні кухні, ні сантэхнікі.

Ніна Анатольеўна Смірнова, бабуля дзяцей дашкольнага ўзросту, лічыць, што закрыццё дзіцячага садка вырашыць і лёс прадпрыемства:

— Многія маладыя сем'і спецыяльна пасяліліся ў гэтай мясцовасці, паколькі ёсць дашкольная ўстанова, дзе дзеці будуць дагледжаны. Зарплаты нават вядучых спецыялістаў недастаткова, каб кожны дзень самому адвозіць дзіця ў садок. Да таго ж працоўны дзень ненармаваны і не супадае з распарадкам дня дзіцячых дашкольных установаў.

Вяскоўцы былі здзіўленыя: няўжо зачыніць добра абсталяваны, цёплы і ўтульны садок дзяржаве больш выгадна, чым перабудоўваць школу ў Грозаве?

Галоўны спецыяліст аддзела адукацыі, спорту і турызму Ганна Механікава і вядучы спецыяліст гэтага ж аддзела Ларыса Нупрэйчык так патлумачылі закрыццё садка:

— Па нарматывах патрэбна, каб у групе было 12 дзяцей. На ўтрыманне дзіцяці ў дзіцячым садку на год выдзяляецца 11 мільёнаў 700 тысяч рублёў. Фактычныя выдаткі на ўтрыманне аднаго дзіцяці ў дзяржаўнай установе «Праснакоўскі дзіцячы сад» склалі 68 мільёнаў рублёў.

— Чаму ж адчынілі 4 гады таму?

— Бо было хадайніцтва ад кіраўніка сельскагаспадарчага прадпрыемства ААТ «Праснакі», і быў перапоўнены Грозаўскі дзіцячы садок. Да таго ж сельскагаспадарчае прадпрыемства «Праснакі» прадставіла будынак на аснове бясплатнай арэнды.

Вяскоўцы напісалі калектыўны зварот у Капыльскі райвыканкам, а пасля публікацыі аб праблеме на нашым сайце асабіста наведалі старшыню Капыльскага райвыканкама.

— Я даведалася, што 3 чэрвеня супрацоўнікі аддзела адукацыі павінны былі ўжо перавезці мэблю з дзіцячага садка ў Грозаў, — распавяла Жана Сімановіч — Мы кінуліся да старшыні Капыльскага райвыканкама. Ён быў крыху незадаволены публікацыяй у інтэрнэце, але ў выніку наша размова скончылася пазітыўна. Старшыня райвыканкама паабяцаў, што дзеці змогуць наведваць наш дзіцячы сад. Калі вярнуліся з Капыля, убачылі, што з вялікагрузнага аўтобуса мэблю зноў заносілі ў наш дзіцячы сад.

Зараз шасцёра дзяцей працягваюць хадзіць у дзіцячы садок, а бацькоў непакоіць адсутнасць прафесійнага выхавальніка ва ўстанове. Актыўныя маці чакаюць афіцыйны адказ на свой зварот у райвыканкам і маюць намер і далей змагацца за садок. Дарэчы, кіраўнік мясцовага сельскагаспадарчага прадпрыемства таксама ўзрадаваны прыпыненнем ліквідацыі дашкольнай установы і паабяцаў набыць для садка разнастайныя цацкі для ўсебаковага развіцця дзетак.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Пераацэнка каштоўнасцяў

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Колькі коп'яў ламалі і ламаюць наконт беларускага экспарту ў Расію, колькі прадукцыі Россельгаснагляд «завярнуў» у Беларусь! І вось зараз нам дзякуючь за тое, што мы бесперапынна, хоць тушкай, хоць пудзілам, спрабуем патрапіць на расійскі рынак.**

Гэты парадокс на Маскоўска-беларускім форуме дзелавога супрацоўніцтва, які прайшоў у Мінску, агучыў мэр расійскай сталіцы Сяргей Сабянін. Ён падзякаваў беларускіх сельгасвытворцаў за дапамогу ў пастаўках прадуктаў харчавання ў перыяд еўрапейскіх санкцый і расійскіх контрсанкцый. «Масква практычна не адчула праблем з наменклатурай і аб'ёмам харчовых паставак, у тым ліку дзякуючы сельгасвытворцам Беларусі, якія занялі тую нішу, з якой сышлі еўрапейскія пастаўшчыкі. Нягледзячы на тое, што ў доларавым выражэнні аб'ём ўзаемнага тавараабароту знізіўся, у фізічных аб'ёмах (тое, што тычыцца тавараў харчовай групы) павялічыўся», — звярнуў увагу мэр Масквы.

Нагадаем, што спачатку ўся Масква смяялася з беларускіх крэветак і «сыроў з цвіллю». А потым пакаштавалі — і аказалася смачна!

Пра тое ж казала і кіраўніца Савета Федэрацыі Федэральнага сходу Расіі Валянціна Мацвіенка. «Я шмат езджу па рэгіёнах, і ўжо звычайнай карцінай стала, што ў кожным горадзе ёсць вялікая крама з беларускімі таварамі. Там не толькі прадукты, але і прадукцыя лёгкай прамысловасці. Усё гэта карыстаецца вялікім попытам у расіян і ў велізарных колькасцях пастаўляецца ў Расію», — зазначыла яна.

Канешне, такая ацэнка замежных гасцей можа і падняць пачуццё ўласнай вартасці. Але трэба неяк прымусіць, каб сказаўшы «а», гэтыя госці сказалі і «бэ». Хай яны ўжо зробяць нешта са сваім Рассельгаснаглядам. То гэты нагляд заверне 40 тон мяса для Масквы толькі з-за таго, што назва прадпрыемства вытворцы ў ветэрынарным сертыфікаце і на маркіровачных этыкетцы не адпавядае найменню ў Рэестры арганізацый і асоб, якія ажыццяўляюць вытворчасць, перапрацоўку і (або) захоўванне падкантрольных тавараў. То ветэрынарны штамп на мясе «размыты і нечытэльны». То беларусы польскія грушы вязуць па дакументах на мінеральную ваду... Ну, паблыталі накладныя, што зробіш?

Зараз, калі Сабянін з Матвіенка возьмуцца за справу, пэўна, сітуацыя зменіцца. Акрыленая кампліментамі, Беларусь ужо падала дакументы на аднаўленне паставак у Расію рыбнай прадукцыі з чатырох прадпрыемстваў. Як сказаў міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Леанід Заяц, сыравіна пастаўляецца з дазволу Рассельгаснагляду з атэставаных прадпрыемстваў. Беларусы рыбу перапрацоўваюць, і з ужо зменeным гандлёвым кодам у новым выглядзе пастаўляюць на харчовы рынак Расіі. І, як бачым, нічога страшнага ў гэтым няма.

Кампліменты нашай краіне зрабілі на тыдні не толькі расіяне. Міністр сельскай гаспадаркі Польшчы Кшыштаф Юргель, які таксама завітаў у Беларусь на выставу «Белагра 2016», зазначыў, што экспарт польскіх прадуктаў харчавання ў Беларусь вырас на 56% у параўнанні з аналагічным перыядам у мінулым годзе. Кошт цяперашняга экспарту можа скласці 400 мільёнаў еўра.

Здавалася б, якая тут звязка, паміж Польшчай і Расіяй? Але ўсе мы ведаем, якая. Па дадзеных той жа шкоднай структуры, Рассельгаснагляду, значная частка польскіх прадуктаў затым рээкспартуецца ў РФ, дзе заходнія прадукты забаронены.

Ну і што? Як інакш нам забяспечыць харчамі Маскву, у якой насельніцтва больш, чым ва ўсёй разам узятай Беларусі? Тым больш, што гэтая шкодная расійская структура ў чарговы раз спрабуе давесці сваіх жыхароў да голаду.

Днямі намесніца кіраўніка Рассельгаснагляду Юлія Швабаускене паведаміла, што Расія можа ўвогуле забараніць рээкспарт гароднiны і садавіны праз ЕС. Маўляў, няма доказаў перамяшчэння тавараў па Еўрасаюзу, таму «ёсць падазрэнні, што перамяшчаюцца толькі паперы, а грузы ідуць з санкцыйных краін. Можна, да прыкладу, узяць груз з Польшчы і адправіць яго з сертыфікатам, дапусцім, Камеруна».

А вось гэта ўжо ідэя! Тым больш, што ў ЕС, як высветлілася, увогуле няма такой паперкі, як фітасанітарны сертыфікат. Прынамсі, прадукцыя ў Еўропе перавозіцца без яго.

Таму ў хуткім часе Маскву чакае наплыў беларускіх ківі і бананаў. І ім добра — і нам прыбытак.

У гэтай сувязі выглядае вельмі дзіўным рэйтынг «добрых краін» — Good Country Index-2016. У ім Беларусь заняла 79-е месца з 163. У першай версіі рэйтынгу, апублікаваным у 2014 годзе, Беларусь была на 82-м месцы сярод 125 краін.

Краіны ацэньваюцца па 35 паказчыках у сямі катэгорыях: навука і тэхналогіі, культура, міжнародны мір і бяспека, сусветны парадак, планета і клімат, росквіт і роўнасць, здароўе і дабрабыт. Рэйтынг паказвае, што нацыянальная палітыка кожнай краіны прыўносіць у дабрабыт усяго чалавецтва і што адымае ў яго, зыходзячы з памеру краіны. Такім чынам, становіцца зразумела, ці з'яўляецца краіна ў сусветным маштабе «чыстым крэдыторам», «клопатам» ці чымсьці сярэднім.

Рэйтынг вызначыў, што самы важкі ўклад у глабальны дабрабыт Беларусь уносіць у навуцы і тэхналогіях (37 месца), самы нязначны — у росквіце і роўнасці (148 месца). Уклад у здароўе і дабрабыт ацанілі як сярэдні, па гэтым паказчыку Беларусь 52-я. Па паказчыку «планета і клімат» краіна апынулася на 69 месцы, па ўнёску ў сусветны парадак заняла 75 месца і ўнёску ў сусветную культуру — 125-е.

Эх, не слухалі стваральнікі рэйтынгу Сабяніна! Пэўна, мы б былі на больш вышэйшым месцы.

Як з Налібокамі, Белавежай і палескімі балотамі мы апынуліся на 69-м месцы ў «планеце і клімаце»? Як з Нобелем Алексіевіч мы занялі 125-е месца па ўнёску ў сусветную культуру? Гэты рэйтынг азначае тое, што сінявокая проста не разрэкламаваная ў свеце.

Застаецца толькі падумаць, ці патрэбная нам такая рэклама, альбо мы і без яе добра пражывем.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Эдуард Пальчыс



**Стваральнік патрыятычнага блога 1863х быў экстрадаваны ў Беларусь з Расіі.**

Эдуарду Пальчысу пагражае да пяці гадоў турмы.

Следчы камітэт працягвае расследаванне адносна экстрадаванага ў Беларусь Эдуарда Пальчыса, вядомага пад псеўданімам Jhon Silver. Справа распачата паводле артыкулаў за распальванне расавай, нацыянальнай ці рэлігійнай варожасці, а таксама за распаўсюд парнаграфіі.

Сайт Пальчыса, як сцвярджаецца на ім, займаўся «выкрыццём міфаў, на якіх трымаецца пракрамлёўская ідэалогія ў Беларусі». Большасць артыкулаў, у якіх шукалі экстрэмізм, былі звязаныя з Украінай, парнаграфію ж знайшлі ў скрыншоце допісу прарасійскай суполкі.

«Сярод вядомых беларускіх блогераў Джон Сільвер — ці не самы малады. Ён ці не адзіны піша на грамадска-палітычныя тэмы для пакалення 20-гадовых у прымальнай для іх стылістыцы», — пісаў пра Джона Сільвера і яго блог пісьменнік і журналіст Севярын Квяткоўскі.

Першы раз Пальчыса затрымалі ў маі 2015 года. Яго адправілі на псіхіятрычную экспертызу МУС, дзе ён правёў 29 дзён. Яго прызналі нармальным і выпісалі з лякарні пасля таго, як прэса прыцягнула ўвагу да яго знікнення. Следчы камітэт абмежаваўся падпіскай пра нявыезд, але пакінуў Пальчыса ў статусе падазраванага і рэгулярна выклікаў на допыты.

Каб працягваць весці блог, увосень 2015 года Пальчыс з'ехаў ва Украіну. Праз парушэнне падпіскі аб нявыездзе СК РБ абвясціў яго ў міжнародны вышук. У студзені 2016 года ён быў затрыманы ў Расіі і знаходзіўся ў бранскім следчым ізалятары.

## Валянціна Быкава



**Лекары з нейрахірургічнага аддзялення ацэньваюць стан збітай невядомым сястры Васіля Быкава як цяжкі.**

У сястры пісьменніка Васіля Быкава дыягнаставаная посттраўматычная пнеўманія, выкліканая наступствамі пераломаў рэбраў. Пакуль трэба адпампоўваць вадкасць з лёгкіх, яе будуць лекаваць ва ўмовах рэанімацыйнага аддзялення. Потым ёсць верагоднасць, што яе перавядуць зноў у Вушацкі шпіталь.

Апрача рэбраў з левага боку, у Валянціны Уладзіміраўны зламаныя плечавая костка злева і запясце правай рукі. Яна пры памяці, але не да канца выйшла са стрэсавага стану. Пазнае людзей, размаўляе з лекарамі, распавядае, што з ёю здарылася.

Нагадаем, 27 мая на Валянціну Быкаву быў здзейснены напад, пасля якога 89-гадовая жанчына трапіла ў рэанімацыю.

## Віктар Ганчарэнка



**Былы галоўны трэнер БАТЭ стаў самым запатрабаваным «антыкрызісным менеджарам» у расійскіх футбольных клубах.**

Днямі Віктар Ганчарэнка быў прызначаны на пасаду галоўнага трэнера «Уфы». Працоўнае пагадненне разлічана на два гады з магчымасцю падаўжэння кантракту яшчэ на адзін сезон. У мінулым сезоне «Уфа» заняла 12-е месца ў расійскай прэм'ер-лізе.

Папярэднім месцам працы беларускага спецыяліста быў ЦСКА, дзе ён на пасадзе старшага трэнера заваяваў з армейскай камандай залатыя медалі чэмпіянату Расіі.

У якасці галоўнага трэнера раней Ганчарэнка працаваў з расійскімі клубамі «Кубань» (Краснадар) і «Урал» (Екацярынбург).

Пад кіраўніцтвам Ганчарэнкі «Кубань» правяла першыя 13 матчаў чэмпіянату Расіі, у якіх атрымала шэсць перамог, шэсць раз згуляла ўнічыю і адзін раз прайграла (0:6 маскоўскаму ЦСКА), пасля чаго Ганчарэнку адправілі ў адстаўку. З 14 паядынкаў пад кіраўніцтвам іншага трэнера клуб выйграў толькі адзін матч, пяць звёў унічыю і прайграў восем разоў. З пятага месца каманда апусцілася на дзявятае.

Што тычыцца «Урала», то на старце сезона Ганчарэнка вывеў яго адразу на 10-е месца, прычым працаваў з камандай ён усяго два месяцы. Прычынай сыходу Ганчарэнкі шмат хто называе адмову «зліць» матч з грозненскім «Тэрэкам».

# Дэманстрацыя вернасці ці піяр на зброі

Сяргей ПУЛЬША



**NATO даўно заяўляла, што будзе пашыраць сваю групоўку ў краінах Усходняй Еўропы ў адказ на брутальныя дзеянні Расіі ва Украіне. А Расія, зразумела, казала пра адпаведную рэакцыю на гэтыя крокі. У выніку Беларусь апынулася (як і заўсёды) паміж дзвюма вайсковымі групоўкамі. Але гэта ўладу не турбуе. Хаця, здавалася б, павінна.**

## Альянс

У панядзелак у Польшчы адбылася цырымонія адкрыцця міжнародных вучэнняў NATO «Anakonda–16», якія стануць рэкорднымі для альянсу ва Усходняй Еўропе. У манеўрах прымаюць удзел больш за 30 тысяч салдат з 24 краін, у тым ліку з пяці дзяржаў, якія не ўваходзяць у NATO, а таксама больш за 3 тысячы адзінак вайсковай тэхнікі і 12 караблёў.

Згодна са сцэнарам вучэнняў, адна з краін Альянсу стала ахвярай паступовай экспансіі з боку магутнага «саюза-суперніка». Атакуюць «сініх» (краіны NATO) выдуманыя «чырвоныя» краіны — Bothnia, Torrike і Lindsey. Групы баевікоў невядомага паходжання спрабуюць раздзьмуць масавыя хваляванні, захапіць уладу ў памежных гарадах, пачынаюць атакі на паліцыю і важныя аб'екты гаспадаркі. Здзяйсняюцца кібератакі і спробы захапіць ці пашкодзіць інфармацыйныя сеткі.

Затым адбываецца ўварванне варожых войскаў на (умоўна) Балтыю і Польшчу, праціўнік імкнецца да анексіі акупаванай тэрыторыі. Польшча звяртаецца ў NATO па дапамогу.

Імаверна, тры краіны «саюза-суперніка» — гэта тры расійскія вайсковыя кантынгенты, якія знаходзяцца ў Калінінградскай вобласці ўздоўж межаў Эстоніі і Латвіі, а таксама на тэрыторыі Беларусі. Таксама сцэнар уключае анексію «чырвонымі» яшчэ адной выдуманай краіны. Гэта альбо адна з краін Балтыі, альбо Беларусь.

Камандуючы ўзброенымі сіламі ЗША ў Еўропе генерала Бен Годжэс не хавае, што ёсць дзве мэты гэтых вучэнняў. Першая — «Анаконда–16» павінна даць упэўненасць саюзнікам у тым, што NATO адрэагуе на імаверную небяспеку іх анексіі. І другая — напужаць Расію «пасля таго, як яна напала на Украіну і анексавала Крым».

## Расія

РФ павяла сабе дзіўным чынам. І гэта была не рэакцыя на вучэнні. Яшчэ за месяц да польскіх вучэнняў у Расіі было прынятае рашэнне перакінуць у Клінцы — мястэчка ў 40 кіламетрах ад беларускай мяжы, — 28-ю асобную мотастралковую брыгаду з Екацярынбургу, якая мае значны баявы досвед. Яна ўдзельнічала ў аперацыях у Чачні, Грузіі, Украіне і Сірыі. Прычым перакідванне адбылося звыштэрмінова: па сведчаннях карэспандэнтаў «Радыё Свабода», якія з'ездзілі ў Клінцы, для жаўнераў нават не было папярэдне створана ніякіх умоў. Напрыклад, журналісты пабачылі, як некаторыя вайскоўцы начуюць на адкрытым паветры ля вогнішчаў.

Аналізуючы гэта, практычна ўсе каментатары спасылаюцца на селектарную нараду расійскіх вайскоўцаў 4 мая. На ёй міністр абароны Расіі Сяргей Шойгу пацвердзіў, што на заходніх межах групоўка войскаў будзе значна ўзмоцнена з мэтай супрацьдзеяння нарошчванню сілаў NATO ў краінах Усходняй Еўропы. Да канца года ў Заходняй вайсковай акрузе будуць сфарміраваныя дзве новыя дывізіі і яшчэ адна — у Паўднёвай акрузе. У Заходнюю акругу плануецца паставіць больш як 1,1 тысячы адзінак новай і мадэрнізаванай вайсковай тэхнікі, у тым ліку самалёты, верталёты, танкі, бронетранспарцёры, сродкі сувязі і кіравання.

**Беларускі ВПК рыхтуе наступную версію «Паланэза», які будзе мець далёкасць да 300 кіламетраў. Фактычна, у поле дзейнасці нават першай версіі трапляюць сталіцы ўсіх нашых краін-суседак апроч Расіі**

Дарэчы будзе нагадаць, што ў пачатку гэтага года ў Заходняй акрузе была адноўлена 1-я гвардзейская танкавая армія. Яна ўключыла ў сябе 4-ю Кантэміраўскую танкавую дывізію і 2-ю Таманскую мотастралковую, а таксама 6-ю танкавую і 27-ю Севастопальскую мотастралковую брыгады.

## Беларусь

Кіраўніцтва нашай краіны, падаецца, не напалохана такой канцэнтрацыяй войскаў ля межаў сваёй краіны — як з Захаду, так і з Усходу. Больш за тое, яшчэ і, нібыта, вітае ўзмацненне расійскага кантынгенту непасрэдна ля мяжы Беларусі.

«Расіяне часта кажуць пра тое, што ля межаў Расіі разгортваюцца новыя кантынгенты NATO. Трэба падкрэсліць, што перш за ўсё — ля нашых, беларускіх межаў. Мы гэта бачым і прымаем без гвалту, без шуму адэкватныя захады», — заявіў Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з кіраўнікамі дэлегацый, якія прымаюць удзел у XVI сесіі Савета кіраўнікоў вышэйшых органаў фінансавага кантролю дзяржаў — удзельніц СНД.

«Бачу, што і расійскае кіраўніцтва сёння дзейнічае ў гэтым жа ключы ў заходнім накірунку, маю на ўвазе, што ў нас сумесная групоўка ўзброеных сіл на Захадзе, якая забяспечвае бяспеку нашай бацькаўшчыны — Беларусі і Расіі. І ў аснове гэтай групоўкі — часткі беларускай арміі. У выпадку канфлікту яны першымі ўступаюць у бой і на працягу кароткага часу сюды падцягваюцца часткі, засяроджаныя на захадзе Расійскай Федэрацыі», — працягнуў Лукашэнка.

Ён таксама адзначыў: «Мы гэта не хаваем ад нашых заходніх не тое калег, не тое партнёраў, не тое супернікаў. Яны выдатна ведаюць нашы дамоўленасці з Расіяй».

Але тут ёсць два моманты, на якія варта звярнуць увагу. Першы: NATO праводзіць свае вучэнні, каб паказаць краінам Альянсу, што яны абароненыя. Мы кажам пра тое, што мы застаемся фарпостам Расіі. То бок, гэта азначае, што Беларусь для Расіі — як NATO для Літвы. Ці не завялікая для нас «шапка Манамаха»?

І другі момант: часткі, якія перакідваюцца да мяжы з Беларуссю, — гэта не «абарanyльная зброя». Танкі і мотастралковыя палкі — гэта, хутчэй, наступальныя падраздзяленні. Калі б рабіўся ўпор на абарону, да мяжы варта было б перакідваць супрацьпаветраныя комплексы і тыя ж «Іскандэры», а не танкі.

## Напужаем «Паланэзамі»?

Якія ж «адэкватныя захады» прымае Аляксандр Рыгоравіч для таго, каб рэагаваць на павелічэнне групоўкі NATO ў Польшчы і краінах Балтыі?

Вайсковы эксперт Аляксандр Алесін кажа, што, як ні дзіўна, сапраўды «без шуму і гвалту» на заходнім накірунку Беларусь здолела павысіць сваю абараназдольнасць. «Я думаю, што найперш Лукашэнка меў на ўвазе планавыя мерапрыемствы па ўмацаванні беларускага войска. Узгадаем, напрыклад, яго нядаўнія заявы пра тое што «Паланэз» у нас з'яўляецца галоўнай зброяй стрымлівання», — заўважае эксперт.

Ракетная сістэма залпавага агню «Паланэз» — гэта распрацоўка беларускага ВПК. Яе далёкасць паражэння складае каля 200 кіламетраў.

«У вайсковай дактрыне ў нас запісана, што Беларусь у выпадку неабходнасці можа нанесці і прэвентыўны ўдар па сумежных тэрыторыях. Так што Лукашэнка, хутчэй за ўсё, меў на ўвазе менавіта прыняцце на ўзбраенне першых дывізіёнаў «Паланэзаў» у іх першай версіі, з далёкасцю паражэння да 200 кіламетраў», — працягвае Алесін. Ён кажа, што стрэльбы з гэтых комплексаў ужо адбыліся, і ў той жа час прадстаўнікі беларускага ВПК заявілі, што рыхтуюць наступную версію «Паланэза», які будзе мець далёкасць да 300 кіламетраў. «То бок, фактычна, у поле дзейнасці нават першай версіі трапляюць сталіцы ўсіх нашых краін-суседак апроч Расіі», — адзначыў Алесін.

У гэтым выпадку, сапраўды, «без шуму і гвалту» мы можам нанесці ворагу немаленькі ўрон.

## «Зялёных чалавечкаў» не будзе?

Што ж тычыцца патэнцыйнай пагрозы з Усходу, то ваенны эксперт пакуль яе не бачыць, таму што расійскіх вайскоўцаў на мяжы з сінявокай мала для захопніцкай вайны. «Мяжа Расіі і Беларусі даволі шырокая, і для таго, каб весці наступальныя аперацыі, трэба значна больш сілаў. Як мінімум, дзве паўнакроўныя арміі, улічваючы прастору і характар мясцовасці», — зазначае ён.

Гэтая пазіцыя Алесіна выклікала крытыку. Яго апаненты — у прыватнасці каардынатар ініцыятывы Informnapalm Дзяніс Івашын, — кажуць, што Алесін забыўся на сцэнар «гібрыднай вайны», апрабаваны Расіяй у Крыме і Данбасе.

Але, пярэчыць Алесін апанентам, для «гібрыднай вайны», патрэбна буйная «пятая калона», вялікая колькасць людзей, якія з'яўляюцца ўнутраным ворагам, граюць супраць сваёй дзяржавы і працуюць у інтарэсах знешніх сіл. «Я мяркую, што ў Беларусі такой «пятай калоны» няма», — кажа эксперт. У жыхароў сінявокай да Расіі іншы настрой, чым у Крыме і Данбасе. І, калі беларускае войска і не вытрымае наўпроставага супрацьстаяння з расійскім, то ў Беларусі моцныя традыцыі партызанкі. Дый войскі тэрытарыяльнай абароны ствараліся, пэўна ж, нездарма.

І, па меркаванні Алесіна, Расіі значна больш выгадны — з палітычнага і дыпламатычнага пункту погляду, — ускосны кантроль за сінявокай з дапамогай эканамічных рычагоў. «Другую такую катастрофу для аўтарытэту Расіі, як пасля прыяднання Крыма і ўдзелу ў канфлікце на Данбасе, расійская знешняя палітыка наўрад ці вытрымае», — кажа эксперт.

## Вайна на іншым фронце

А вось што сапраўды адбываецца зараз, дык гэта, па меркаванні Алесіна, вайна ў інфармацыйным полі. Перакідванне расійскіх войск на беларускую мяжу, па меркаванні эксперта, гэта адна з формаў ціску на кіраўніцтва Беларусі. Расія паказвае, што плануе стварыць «другі эшалон абароны», і сінявокая — ужо не адзіны фарпост на заходнім кірунку. «Гэта дэманстрацыя Лукашэнку, што яго паслугі (у абароне Расіі. — рэд.) не так запатрабаваныя, як раней», — мяркуе эксперт.

Лукашэнка таксама вымушаны распачынаць піяр-кампанію. Пасля паляпшэння адносін Беларусі з Захадам, «мяккай непадтрымкі» Расіі па пытаннях Украіны, Турцыі і «харчовага эмбарга», імідж нашай краіны як сталага саюзніка ў расіянаў зьнікае. «Калі глядзець расійскія навіны, то там пра Беларусь альбо нічога, альбо кепска. Мяркую, што Лукашэнка вымушаны адказваць, таму што маўчанне выглядае ўжо двухсэнсоўным. І ён вымушаны зрабіць рэверанс у бок Расіі», — кажа Алесін.

Асабліва ўлічваючы, што ўвесь час у нас з Расіяй ідзе размова пра прадстаўленне краіне чарговых ільготаў, крэдытаў, зніжак на газ, і гэтак далей. І Лукашэнка, па словах Алесіна, «вымушаны, хаця б на словах дэманстраваць вернасць саюзным абавязальніцтвам».




# Мінгандлю супраць кавярні: працяг канфлікту

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Нашумелая гісторыя пра прадпрымальніцу Таццяну Аляхновіч шырока разышлася па інтэрнэце: дзясяткі абураных чытачоў пакідалі каментары пра кантралёраў з Мінгандлю і пісалі словы падтрымкі жанчыне. Чым жа скончылася гэтая справа?**



Больш за месяц мы не мелі звестак пра прадпрымальніцу Таццяну Аляхновіч — не хацелася турбаваць маладую жанчыну, якая ўвесь гэты час лячылася ў шпіталі, куды яе паклалі з нервовым зрывам пасля праверкі Міністэрства гандлю. Цяпер Таццяна Аляхновіч выпісалася са шпіталя і падзялілася апошнімі навінамі — на жаль, далёка не аптымістычнымі.

— Падчас майго лячэння кавярня не працавала, аднак арэнду, падаткі, камунальныя паслугі (налічылі за два месяцы) — гэта ўсё трэба было сплачваць, — кажа Таццяна Аляхновіч. — У мяне з'явілася запазычанасць у 70 мільёнаў рублёў — з якіх грошай мне гэта аддаваць? Давялося прадаць кавярню. Літаральна днямі адбылася здзелка з пакупніком. Але нават калі б не было фінансавых запазычанасцяў, у мяне ўжо не было жадання займацца гэтым бізнесам, надзвычай шмат нерваў гэта каштуе. Нічога новага адкрываць дакладна не планую.

Аднак нават продаж кавярні не пазбавіў прадпрымальніцу праблем: цяпер жанчыну чакае чарговы галаўны боль — адміністрацыйны суд па «парушэннях», якія знайшлі правяраючыя з Міністэрства гандлю. Калі суд прыме бок кантралёраў, Таццяне Аляхновіч выпішуць буйны штраф.

Перад тым, як выслаць паперы ў суд, прадстаўнікі Мінгандлю сказалі прадпрымальніцы прыехаць у міністэрства і падпісаць адміністрацыйны пратакол. Таццяна Аляхновіч, засцерагаючыся хамскага стаўлення з боку чыноўнікаў, запрасіла журналіста «Новага Часу» далучыцца да яе.

Заходжу ў высокі будынак побач са стадыёнам «Дынама» — тут, на рагу вуліц Кірава і Свярдлова, месціцца Міністэрства гандлю. Праходжу пашпартны кантроль, шукаю патрэбны кабінет. Таццяна Аляхновіч з мужам, які цалкам падтрымлівае яе ў адстойванні сваіх правоў, ужо на месцы — яны актыўна вядуць дыскусію з кантралёрам Аленай Ярашэвіч. Яна ўдзельнічала ў той самай ганебнай праверцы міні-кавярні, аднак цяпер ніякіх эмоцый на твары чыноўніцы прачытаць немагчыма.




— Вы пішаце ў заўвагах, што прадавец была без белага халата. Аднак вы самі яго ўзялі і апранулі на сябе! І, нават не памыўшы рукі, пайшлі абшукваць лядоўні. Чаму вы ў лік пратэрмінаваных прадуктаў упісалі маю «ссабойку», якая ляжала на паліцы «санітарны брак»? Чаму рабілі папраўкі ў дакуменце карэктарам, а адмаўлялі гэта? Але ж людзі бачылі, як вы хадзілі па гандлёвых шэрагах і прасілі карэктар! — абурана запытвае Таццяна Аляхновіч.

Пытанняў па праверцы і складзеных дакументах у прадпрымальніцы шмат. Аднак Алена Ярашэвіч пакідае іх без увагі і, быццам бы іх не чуючы, непарушна спакойна гаворыць пра неабходнасць запаўнення тлумачальных заяў і падпісання пратакола, які будзе скіраваны ў суд. Толькі аднойчы эмоцыі праскокваюць на твары кантралёра — калі Таццяна Аляхновіч пытаецца, чаму ў дакументах фігуруе прозвішча Наталлі Васілеўскай, кіраўніцы аддзела кантролю па Мінску, якая ўласна на праверцы не прысутнічала? Алена Ярашэвіч апускае вочы і ківае галавой у бок кабінета сваёй начальніцы, строгай каротка-стрыжанай жанчыны, — маўляў, гэта пытайце ў яе.

Кідаецца ў вочы, як адказвае Алена Ярашэвіч на просьбу прадпрымальніцы даць асадку для запаўнення папераў — маўляў, у вас што, сваёй няма. Няўжо офісныя асадкі, паперу, прынтары і агромністыя ЖКІ-маніторы з кампутарамі чыноўніцы Мінгандлю прыносіць з дому, а не набываюць з падаткаў тых жа прадпрымальнікаў?

У дакументах, прадстаўленых Таццяне Аляхновіч, няма ані слова пра заўвагі па праверцы, якія падрыхтавала з юрыстам і выслала асобным лістом у Міністэрства гандлю прадпрымальніца, — маўляў, калі ёсць жаданне, упісвайце ад рукі на месцы. Аднак перапісаць на паперу дзясятак лістоў А4 — працы на некалькі гадзін! Пры гэтым мы правялі ў кабінеце ўжо паўтары гадзіны. Развітваемся з Таццянай Аляхновіч і дамаўляемся, што яна патэлефануе мне, як скончыць пісаць заўвагі і сыдзе з міністэрства.

Званок, які я атрымліваю толькі ўвечары, шакаваў:

— Калі вы і мой муж сышлі (пайшоў рабіць друкаваныя копіі дакументаў. — аўт.), пачаўся такі вэрхал! — распавяла Таццяна. — Яны, відаць, адмыслова чакалі, каб я засталася адна. Мяне адразу паклікала Наталля Васілеўская — паводзіла яна сябе вельмі напышліва, увесь час размаўляла на падвышаных тонах. Яна раздрукавала мне пратакол, у якім было пазначана, што я не маю ніякіх заўваг і тлумачэнняў па змесце пратакола, а таксама не маю іншых звестак, неабходных для вырашэння справы.

Я папрасіла перадрукаваць пратакол, бо была з пратаколам не згодная, у мяне маюцца сведкі і відэазапісы. Яна сказала, што я павінна ёй на словах растлумачыць, якія ў мяне прэтэнзіі. Тады я папрасіла зачытаць мне мае правы, бо пачала дрэнна сябе адчуваць, стала кружыцца галава, і я не магла засяродзіцца на тэксце. Васілеўская адмовіла і сказала, што ў пратаколе правы пералічаны, і я павінна чытаць іх да таго часу, пакуль я не змагу сама зразумець. Таксама яна дала мне ліст для тлумачэнняў па пратаколе, і сказала мне яго запоўніць. Я запярэчыла, што не магу пісаць тлумачэнні, бо мне не быў прадастаўлены ўласна новы пратакол. Пасля гэтага Васілеўская спрабавала прымусіць мяне напісаць гэтыя тлумачэнні — дзякуй Богу, тут вярнуўся мой муж і, убачыўшы мой стан, запытаўся ў яе, чаму яна парушае нашы правы і самавольна ўпісвае, што прэтэнзій па пратаколе я не маю. Пасля гэтага Васілеўская спытала, кім з'яўляецца мой муж, даведаўшыся, што ён не юрыст, пачала выганяць яго з кабінета.

Далей, па словах Таццяны Аляхновіч, яна пачала задыхацца і выйшла разам з мужам на калідор. Жанчына пазваніла маці параіцца, што рабіць, але наўпрост падчас размовы страціла прытомнасць.

— Гэта першы раз у маім жыцці, калі я губляю прытомнасць. У сябе я прыйшла толькі з прыездам хуткай дапамогі. Для мяне гэта шок, мне страшна, што ў такім маладым узросце мой мозг не можа справіцца са стрэсавай сітуацыяй. Калі прыехала хуткая, Васілеўская спрабавала іх заўпэўніць, што дрэнна мне стала не ў яе кабінеце, а ў калідоры. Выпытвала ў іх дыягназ, але лекары ёй не сказалі.

Таццяна Аляхновіч сцвярджае, што падчас гэтага вэрхалу з яе рэчаў знік пратакол, які ёй дала Васілеўская, — прадпрымальніца можа толькі здагадвацца, хто і навошта яго забраў. У лякарні жанчыне зрабілі некалькі ўколаў і паставілі кропельніцу.

Дарэчы, за апошні час Таццяне Аляхновіч прыйшлі адказы ад дзяржаўных інстытутаў, куды яна скіроўвала прэтэнзіі па праверцы і прыкладала відэазапісы. Адказы, хоць і займаюць па дзве старонкі кожны, па сутнасці бессэнсоўныя: Камітэт дзяржкантролю скіраваў прадпрымальніцу ў Мінгандлю, Генеральная пракуратура — аналагічна, а міністр гандлю не ўбачыў у дзеяннях сваіх падначаленых парушэння заканадаўства...

Тым не менш, Таццяна Аляхновіч не складае рукі. Цяпер жанчына рыхтуе абарону для адміністрацыйнага судовага працэсу, а таксама збіраецца сама падаваць у суд на кантралёраў з Міністэрства гандлю.

Калі адкінуць эмацыйны складнік, не зважаць на адкрытае хамства супрацоўнікаў міністэрства і нават умоўна пагадзіцца з вынесенымі парушэннямі, у сухой рэшце застаецца: дзеянні супрацоўнікаў Мінгандлю — у прыватнасці, закрыццё кавярні за «пратэрміноўку» на 65 тысяч рублёў, — фактычна прывялі да разарэння прадпрымальніцы і сур'ёзна падарвалі яе здароўе, а таксама цалкам знішчылі давер да дзяржаўных структур. А калі дадаць два страчаныя працоўныя месцы (ІП і прадавец), страчаныя падаткі ў бюджэт і выдаткі з дзяржаўнага бюджэта на месячнае лячэнне ў шпіталі — выходзіць, Мінгандлю загнаў у мінус і дзяржаву. Каму ад гэтага лепш?

**Дзеянні супрацоўнікаў Мінгандлю — у прыватнасці, закрыццё кавярні за «пратэрміноўку» на 65 тысяч рублёў, — фактычна прывялі да разарэння прадпрымальніцы і сур'ёзна падарвалі яе здароўе, а таксама цалкам знішчылі давер да дзяржаўных структур**

Ў Гэта я — беларускамоўны

# «На рускую пераходжу

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Гэтым разам пра свой шлях да беларускай мовы распавядаюць вядомы музыка, ландшафтны дызайнер ды спецыяліст па турызме — удзельнікі «Перапісу насельніцтва», арганізаванага папулярнымі курсамі беларускай мовы «Мова Нанова».**




### Сяргей Доўгушаў, саліст філармоніі, лідар гурта «Vuraj»

— На жаль, у вёсцы, дзе я нарадзіўся (Новае Тарчылава, Аршаншчына), зусім не гучала беларуская мова, але было шмат каларытных слоў з мясцовых дыялектаў «лісапед», «лярва», «прагон», «круча».

Часта сустракаліся і беларускія словы, накшталт «чапяла», «хлеў», «валацуга», «калідор». Але ў асноўным гучала ўедлівая «трасянка», з якой мы ў юнацтве здзекаваліся і смяяліся, нават пазней і песні пачалі складаць дзеля жарту (быў такі панк-рокавы хіт, які мы прыдумалі і гралі, спявалі «Сам я родам з дзярэўні»).

Але сапраўдная беларуская мова прыйшла да мяне пазней — калі я ўжо жыў у Мінску і заканчваў Акадэмію музыкі. Мова прыйшла праз усе прачытаныя тамы Уладзіміра Караткевіча, праз бессмяротныя вершы Рыгора Барадуліна, Анатоля Сыса. І самае галоўнае — праз народныя беларускія песні. Доўгі час я размаўляю у асноўным са сцэны ці ў інтэрв'ю. Але з цягам часу ўвогуле перайшоў на родную мову. Падаецца, гэта адбылося пасля гастроляў «Vuraj» ва Украіне. Тады я вырашыў: а чаму беларуская мова не можа быць у нас, у беларусаў, асноўнай, галоўнай, як у ўкраінцаў — украінская, а руская ўспрымаецца як замежная. То бок, усё наадварот, як зараз у нас. Тады ўсё і пачалося.

Цяпер на рускую мову, калі трэба, пераходжу са складанасцямі — лезуць адусюль беларускія словы. Збольшага без фанатызму: калі сітуацыя патрабуе перайсці на рускую мову — пераходжу. Але мая асноўная мова — беларуская.

З беларускай мовай згадваюцца самыя пазітыўныя моманты. Моманты разумення і яднання, калі гутарыш з палякамі, украінцамі, славакамі па-беларуску, і яны цябе разумеюць, паважаюць. Памятаю, як пасля нашага выступу з «Vuraj» на расійскім фэсце «Пустые холмы» нас вельмі доўга запрашалі зноў на сцэну ўсімі беларускімі словамі, якія толькі ўспаміналіся: «яшчэ», «калі ласка», «малайцы».

І пасля выступу мясцовыя падыходзілі, гутарылі і спрабавалі вучыцца ў нас размаўляць па-беларуску.

А ў Чэхіі, напрыклад... Я не вельмі добра валодаў чэшскай і часта дадаваў у сваіх размовах беларускія словы ці сказы — і мяне разумелі. Але аднойчы я заўважыў, што людзі неяк саромеюцца маіх слоў ці чырванеюць, калі я казаў «шукаць» ці «я шукаю». Толькі потым я мне патлумачылі, што ёсць у чэхаў вельмі сарамлівае слова і зусім іншае па сэнсу, чым нашае «шукаць»... (чэшскае «шукаці» з'яўляецца грубай формай фразы «займацца каханнем». — Т.Ш.)

### Валерыя Апанасевіч, ландшафтны дызайнер

— Адразу скажу, што навучанне ў школе ў Гомелі ніяк не спрыяла развіццю любові да роднай мовы. Творы па літаратуры я лічыла «сухімі» і нецікавымі — напэўна, нічога да канца не прачытала. Відаць, таму людзі, якія размаўлялі на беларускай мове, для мяне былі незразумелымі і сумнымі. Пазней, ва ўніверсітэце, мяне таксама з беларускай мовай нічога не звязвала. Але ж нейкая цікавасць да мовы, культуры і гісторыі недзе ў падсвядомасці ў мяне была. А вось калі ўжо пераехала з роднага Гомеля ў Мінск, я пачала сустракаць беларускамоўных людзей, якія сапраўды любілі сваю мову ды сваю краіну. Я і сама пачала глядзець на мову інакш. Памятаю, каб пачаць мець стасункі з беларускай літаратурай, мне параілі прачытаць «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча. Але

# Справы і мары Ігара Язэпенкі

Марат ГАРАВЫ

**З гэтым высокім хударлявым рамантыкам я пазнаёміўся ў далёкім 1993 годзе на Рагачоўшчыне падчас раскопак. Разам з Ігарам Язэпенкам у даследаваннях бралі ўдзел ягоны старэйшы калега Мікола Крывальцэвіч і маладыя даследчыкі старажытнасцяў пад кіраўніцтвам мясцовага краязнаўцы Алеся Рыкунова з археалагічнага гуртка Рагачоўскага краязнаўчага цэнтру.**



Ігар Язэпенка (другі злева) сярод студэнтаў — сённяшніх супрацоўнікаў і аспірантаў Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі падчас раскопак на неалітычнай стаянцы Свядкае–2 Рэчыцкага раёна, што на Гомельшчыне (кастрычнік 2009)

Потым Ігар Язэпенка абараніў дысертацыю і напісаў грунтоўную манаграфію «Паселішчы неаліту і ранняга перыяду эпохі бронзы міжрэчча Бярэзіны і Дняпра». У інтэрв'ю НЧ навукоўца распавёў пра сваю працу, пра дасягненні і пра сваю мару аб стварэнні першага ў Беларусі Нацыянальнага археалагічнага парка.

### Схаваная гісторыя

У выніку даследаванняў нядаўна знайшліся артэфакты, якія могуць сведчыць пра тое, што яшчэ ў IV тысячагоддзі да н. э. з надпарожжа Дняпра ў Верхняе Падняпроўе прыйшлі плямёны вандроўнікаў-намадаў індаіранскага паходжання, якія на той час ужо зрабілі свойскімі коней. Пра гэта сведчыць гаршчок сярэднестагоўскай культуры эпохі энеаліту, знойдзены у рэчышчы Дняпра насупраць санаторыя «Прыдняпроўскі» ў Рагачоўскім раёне Гомельшчыны. Дадатковыя даследаванні могільнікаў і паселішчаў вакол незвычайнай знаходкі дапамогуць выявіць арэал гэтай лесастэпавай культуры.

Даследаванне 14-ці паселішчаў позняга неаліту і ранняй бронзы (сярэдзіна III — пачатак II тысячагоддзя да н.э.) у міжрэччы Бярэзіны і Дняпра, якія былі раскапаныя з 1990 па 2007 гады, дало магчымасць звязваць гэтую тэрыторыю з колам культур агульнаеўрапейскай шнуравой керамікі (усходняя Швейцарыя, паўднёва-ўсходняя і паўночная Нямеччына, цэнтральная Польшча).

Усё гэта сведчыць пра вельмі стракаты ландшафт першабытнага жыцця на тэрыторыі міжрэчча Бярэзіны і Дняпра. Апроч таго, з'яўляецца новы этап у гісторыі айчыннай археалогіі — перыяд энеаліту — пераходу ад каменнага веку да веку металу, падмацаваны адпаведнымі артэфактамі.



Гаршчок сярэднестагоўскай культуры эпохі энеаліту IV тысячагоддзя да н.э. Знойдзены ў рэчышчы Дняпра насупраць санаторыя «Прыдняпроўскі». Артэфакт сведчыць пра прысутнасць у Падняпроўі культуры намадаў індаіранскага паходжання, якія здолелі прыручыць коней

Навукоўцам таксама цікава адсачыць транзіт культуры намадаў і яе магчымае ўзаемадзеянне з культурай мясцовых індаеўрапейскіх плямёнаў. Так што наперадзе беларускіх археолагаў чакае яшчэ шмат цікавых адкрыццяў.

### На водкуп рабаўнікам

Помнікі археалогіі, як важныя складнікі нацыянальнай і сусветнай культуры, патрабуюць комплекснага падыходу да іх уліку, вывучэння, аховы і выкарыстання. Асаблівую занепакоенасць выклікае стан захавання помнікаў археалогіі, у першую чаргу, айчынных курганных могільнікаў ранняга сярэднявечча. Менавіта гэтыя ўнікальныя матэрыяльныя гістарычна-культурныя каштоўнасці становяцца асноўнымі аб'ектамі рабавання з боку «чорных капальнікаў».

Згодна заканадаўству, ахова помнікаў археалогіі ўскладзена на мясцовыя саветы і чыноўніцтва, а на практыцы — на супрацоўнікаў краязнаўчых музеяў у якасці дадатковага абавязку. Але далёка не ў кожным музеі працуе спецыяліст-археолаг. Таму помнікі археалогіі становяцца аб'ектамі пільнай увагі не дзяржавы, а ў першую чаргу рабаўнікоў.

Многія чыноўнікі, якія працуюць у мясцовых саветах, прыродаахоўных інспекцыях, лясніцтвах і землеўладкавальных службах, з-за адсутнасці сістэмнага падыходу да помнікаў археалогіі проста не звяртаюць на іх аніякай увагі. І тады адбываецца знішчэнне гэтых унікальных носьбітаў старажытнасцяў. Так, у 2013 годзе падчас добраўпарадкавання пляжу Камарын у Рагачове быў знішчаны фрагмент культурнага пласту.

Для больш дзейснага ўліку, вывучэння, аховы, папулярызацыі і музеефікацыі помнікаў археалогіі прапаную стварыць на тэрыторыі Рагачоўскага раёна першы ў краіне Нацыянальны археалагічны парк.

### Рагачоўшчына як археалагічны парк

На Рагачоўшчыне ў рэчышчы Дняпра на невялікай тэрыторыі ад Гадзілавічаў да Альсагоркі агульнай плошчай каля 45 квадратных кіламетраў зафіксавана каля 60 (!) аб'ектаў археалогіі — стаянак і паселішчаў, грунтовых і курганных могільнікаў. Толькі некалькі раёнаў краіны могуць пахваліцца такой высокай канцэнтрацыяй помнікаў старажытнасцяў. Большасць з

**Усё багацце гістарычна-культурнай і прыроднай спадчыны краю патрабуе адпаведнага кіравання ў рамках Нацыянальнага археалагічнага парку**

# са складанасцямі»




мне больш спадабаліся «Каласы пад сярпом тваім».

А потым я сустрэла свайго будучага мужа, Яўгена. Ён сапраўды любіць Беларусь і ўсе, што з ёй звязана. Праз яго я шмат што сама зведала, і разам з ім мы вырашылі, што любоў будзе няпоўнай, калі не пачаць размаўляць на беларускай мове. І вось ужо пяты год мы вывучаем мову і размаўляем на ёй.

Магу назваць нават дакладны момант, калі мы вырашылі, што трэба гаварыць па-беларуску: Яўген у чарговы раз прыйшоў з экскурсіі і пачаў злавацца на тых, хто не ведае сваёй гісторыі. Я яму кажу: «А чым мы лепш, калі нават не размаўляем на сваёй мове?» З таго часу і размаўляем.

Асабіста я гутару толькі дома ды з тымі, хто таксама размаўляе на беларускай мове. З астатнімі людзьмі магу толькі «дзякуй», «калі ласка» ды «пакуль» ужываць — на жаль, пакуль што так.

Прыгадваецца прыемны выпадак: наш старэйшы сын ходзіць у рускамоўны садок. І вось надышоў у іх час навагодняга ранішніку. Мы прыйшлі паглядзець, як маленькія «мядзведзі» ды «лялькі» будуць танчыць. Дзеці ўсе таўкуцца перад сцэнай, кожны кліча сваіх бацькоў, чутна: «МА-МА! ПА-ПА! МА-МА!» І толькі адзін: «ТАА-ТАА!!» Адразу зразумела — наш!




### Яўген Апанасевіч, прадстаўнік турыстычнага бізнесу

— Складана сказаць, што сфармавала маё стаўленне да беларускай мовы. Гэты быў доўгі шлях, і шмат што гэтаму спрыяла. Усё пачалося з таго, што я, дзякуючы сваёй бабулі і маім сваякам, стаў больш хадзіць у касцёл, дзе чуў родную мову. Тут, канешне, трэба згадаць і святароў, якія, прыязджаючы з Украіны, намагаліся размаўляць па-беларуску.

Дзякуючы касцёлу я ўвогуле трапіў у тую галіну, дзе я зараз працую, — турызм і гісторыя. Дапамагаючы летам у касцёле, я сустракаў шмат розных цікавых людзей, якія таксама паўплывалі на зацікаўленасць моваю і, галоўнае, гісторыяй.

Мае бацькі, калі прыязджалі да сябе дадому з вёскі (найперш тата) стараліся пераходзіць у размове на беларускую мову. Хаця гэта, напэўна, нельга назваць паўнавартаснай беларускай мовай, але некаторыя ўрыўкі слоў ды фраз былі беларускімі… Больш за ўсё мне падабалася, з якой пяшчотай яны гэта рабілі. І гэтыя ўжытыя ў размове беларускія словы былі як глыток свабоды на той зямлі, дзе яны нарадзіліся, бо ў горадзе я такой гаворкі за імі не заўважаў.

Адным з крокаў на шляху да мовы была, безумоўна, мая жонка. Дзякуючы яе падтрымцы гэта стала рабіць прасцей — не толькі ў межах нашай сям'і, але і па-за ёй. Шлях да роднай мовы — гэта вельмі руплівы працэс, які працягваецца і зараз. А калі ты зранку чуеш ад свайго сына: «Тата, добрай раніцы!», то разумееш, што твая мова, мова тваіх продкаў, жывая. Тады расце ўпэўненасць, што шлях да мовы тваіх дзяцей будзе не такі цяжкі, а проста звычайная рэч у сваёй краіне, са сваёй культурай, са сваёй мовай.

Цяпер беларускую мову ўжываю ў сям'і, у размове з блізкімі. І, паколькі праца звязана з людзьмі, працуючы з турыстамі, экскурсіі імкнуся праводзіць на роднай мове. Магу сказаць, што нават тыя людзі, якія напачатку экскурсіі не пагаджаюцца слухаць яе па-беларуску, задаволеныя пасля кажуць «дзякуй».

---

іх адносіцца да эпохі неаліту і ранняга перыяду эпохі бронзы (IV–II тыс. да н.э.). На гэтай тэрыторыі таксама захаваўся шэраг вядомых умацаваных гарадзішчаў (Рагачоўскае, Задруцкае, Лучынскае і Збароўскае), дзе адсочваюцца культурныя напластаванні ранняга жалезнага веку і сярэднявечча.

Паколькі шматлікія неалітычныя паселішчы рэгіёна не закранутыя антрапагенным уздзеяннем, на некаторых з іх можна прасачыць чатыры, а то і пяць этапаў засялення. Вось чаму менавіта гэтыя помнікі могуць стаць эталоннымі ў вывучэнні пераходу ад неаліту да ранняй бронзы.

У наваколлі Лучына і Ходасавічаў выяўлена шмат курганоў — самых старажытных на Беларусі, а на ўскрайку селішча Ходасавічы — мясцовае капішча, верагодней за ўсё прысвечанае Перуну, — паганскі культавы помнік X — пачатку XI стагоддзя на беразе возера Святое. Ля Гадзілавічаў вывучаны курганны некропаль дружыннікаў-радзімічаў X–XII стагоддзяў са шматлікімі фрагментамі зброі і ўпрыгожаннямі.

Самы буйны скарб з грашовых знакаў безманетнага перыяду, знойдзеных на Беларусі, зафіксаваны ў Задруцкім гарадзішчы ў прадмесці Рагачова. На гэтым гарадзішчы ў 1893 годзе ў гліняным гаршчку знайшлі 89 цэлых і 3 фрагментаваныя грыўны — зліткі агульнай вагой 14,5 кілаграмы, схаваныя ў XIII стагоддзі. Імператарская археалагічная камісія ў Санкт-Пецярбурзе размеркавала скарб паміж музеямі сталіцы, Масквы, Разані, Арла, Ноўгарада, Херсона, Берлінскага каралеўскага нумізматычнага камітэта, Пенсільванскага ўніверсітэта (ЗША), а таксама распрадала прыватным калекцыянерам. У 1929 годзе Дзяржаўная акадэмія гісторыі матэрыяльнай культуры ў Ленінградзе




**Вокладка манаграфіі Ігара Язэпенкі**

13 зліткаў Задруцкага скарбу перадала Эрмітажу.

Па-за межамі мяркуемага нацыянальнага парка на Рагачоўшчыне зафіксаваны шэраг іншых выбітных помнікаў старажытнасцяў. Сярод іх — добра захаванае Вішчынскае гарадзішча канца XI — сярэдзіны XIII стагоддзяў на правым высокім беразе Дняпра, дзе быў знойдзены адзін з найбольш выдатных па мастацкай каштоўнасці грашова-рэчавых скарбаў Беларусі, курганныя могільнікі радзімічаў X–XII стагоддзяў і дрыгавічоў X–XII стагоддзяў ля вёскі Ветачка, адметныя выкшталцонымі жаночымі ўпрыгожаннямі.

Апроч таго, тэрыторыя будучага Нацыянальнага археалагічнага парку вылучаецца шэрагам буйных водных аб'ектаў (рэкі Днепр і Друць, якія зліваюцца крыху на поўдзень ад Замкавай гары Рагачова; старыцы Дняпра — Камарын, Добрае ці Святое, Сасонка і Прорва), наяўнасцю вядомага геалагічнага разрэзу — помніка прыроды нацыянальнага значэння «Чырвоная горка» ў межах санаторыя «Прыдняпроўскі», што месціцца каля вёскі Збароў, багатай фаўнай і флорай, у тым ліку буйнымі хваёвымі тэраснымі лясамі, участкамі нізінных дуброў і змешаных лясоў. На заліўных лугах Прыдняпроўскай нізіны часцяком сустракаюцца расліны-чырвонакніжнікі.




**Незабыўная вячэра са смажанай рыбай у намётавым летніку на Камарыне**




**Археалагічны нацюрморт, які злучае сучаснасць з сівой даўнінай. Прыгожая неалітычная кераміка; крэмень, без якога немажліва ўявіць жыццё першабытнага чалавека; пэндзлі як інструмент сапраўднай пяшчотнай археалогіі**

### Справа будзе прыбытковай

Усё гэтае багацце гістарычна-культурнай і прыроднай спадчыны краю патрабуе адпаведнага кіравання ў рамках Нацыянальнага археалагічнага парку. Гаворка ідзе пра поўную інвентарызацыю помнікаў археалогіі, арганізацыю іх належнай аховы, дэталёвага вывучэння і шырокай папулярызацыі.

Спачатку трэба вылучыць 15–20 знакавых помнікаў старажытнасці. Ля кожнага неабходна ўзвесці адпаведныя стэнды з падрабязным апісаннем (на беларускай, рускай і англійскай мовах) кожнай каштоўнасці, з кароткай гісторыяй этапаў яе стварэння і вывучэння, з выявамі, у тым ліку з разрэзам помніка ў 3D-фармаце. Апроч таго, помнікі археалогіі трэба пазначыць такім чынам, каб яны былі відаць з паветра і космасу. Усе гэтыя найбольш цікаўныя сведчанні першабытнага жыцця неабходна звязаць турыстычнай сцежкай.

У праграму археалагічных фэстаў, што лепей за ўсё ладзіць на Замкавай гары Рагачова, дзе былі знойдзены ўнікальныя зааморфныя выявы кабанскай культуры з бронзы сярэдзіны I тысячагоддзя да н.э. і сякеркі з рагоў лася сярэдзіны IV тысячагоддзя да н.э., можна ўвесці дзейнасць майстэрняў першабытных продкаў сучасных беларусаў па вырабу прыладаў працы, зброі і ўпрыгожанняў, прадугледзець розныя творчыя конкурсы і спаборніцтвы па азначанай тэматыцы.

Для тых, хто цікавіцца старажытнай гісторыяй краю, рэальна запланаваць у Нацыянальным археалагічным парку тэматычныя пешыя, водныя экскурсіі і вандроўкі на паветраных шарах. Для ўдзельнікаў традыцыйных міжнародных навуковых канферэнцый археолагаў каля санаторыю «Прыдняпроўскі» ўзвесці сучасны гатэль на вадзе. А праграму гэтай канферэнцыі добра аздобіць фэстам беларускай песні — старадаўняй народнай і сучаснай бардаўскай…

Стварэнне Нацыянальнага археалагічнага парку на тэрыторыі Рагачоўскага раёна падштурхне да распрацоўкі ўзорнай дэталёвай праграмы па ахове і папулярызацыі помнікаў археалогіі, будзе спрыяць развіццю краязнаўства і турыстычнай прывабнасці рэгіёну.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Жырыноўскі — галоўны канкурэнт Пуціна?

Вечны блазан расійскай палітыкі Уладзімір Жырыноўскі нечакана зноў становіцца кумірам расіян. Паводле апошніх сацапытанняў, праведзеных шэрагам сацыялагічных цэнтраў, Ліберал-дэмакратычная партыя Расіі (ЛДПР) увесну дагнала па папулярнасці камуністаў, а па стане на 22 мая, маючы 12 працэнтаў падтрымкі, нават апярэдзіла іх на пару пунктаў. Гэта першы выпадак з пачатку 2000-х гадоў, калі ў партыйнай іерархіі Расіі жырыноўцы вярнуліся на другое месца па папулярнасці. На думку прэсы, рост рэйтынгу ЛДПР тлумачыцца прычынамі псіхалагічнага характару. Як адзначае адзін з палітолагаў: «Пасля падзей 2014 года ўнутры расійскага грамадства адбыўся сур'ёзны зрух — яно выйшла за межы рацыянальнасці. А гэта родная стыхія Жырыноўскага. Не Жырыноўскі змяніўся, а грамадства змянілася і стала больш падобным да Жырыноўскага. Неўратычны лідар сустрэўся з неўратычным грамадствам». Так ці інакш, у выпадку поспеху ліберал-дэмакратаў на восеньскіх выбарах у Думу, Уладзімір Вольфавіч ператвараецца ў галоўнага канкурэнта Пуціна на прэзідэнцкіх выбарах 2018-га, калі, натуральна, ВВП пагодзіцца балатавацца.

**Паводле расійскай прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. Чарговы мясцовы Facebook

Узбекістан, як і іншыя аўтарытарныя рэжымы, даўно спрабуе стварыць свой лакальны варыянт сацыяльных сетак, каб кантраляваць іх кантэнт. У межах вырашэння гэтай праблемы 1 чэрвеня быў прэзентаваны Davra — гібрыд «Аднакласнікаў» і Facebook. Тут можна знайсці аднакласнікаў і аднакурснікаў, пазначыўшы месца вучобы, а таксама таварышаў па службе і калег, паказаўшы месца працы. Стваральнікі праекту не хаваюць, што асноўны плюс Davra — «адпаведнасць нашаму менталітэту і заканадаўству Рэспублікі Узбекістан». Аматары інтэрнэту ўжо пратэставалі новую сетку і адразу ж заклікалі, што версія патрабуе сур'ёзнай дапрацоўкі. Дарэчы, гэта не першая спроба стварэння ва Узбекістане палітычна лаяльнай ураду сацыяльнай сеткі. Найбольш скандальным быў выпадак, калі ў краіне з'явілася сетка «Drug», стваральнікі якой не падазравалі, што з англійскай мовы «drug» перакладаецца як «наркотык».

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ФІЛІПІНЫ. Знішчыць усіх злачынцаў

«Новы Час» ужо пісаў пра феномен 71-гадовага Радрыга Дутэртэ — папуліста, які стаў прэзідэнтам Філіпінаў. Першыя крокі новаабранага гаранта сведчаць, што яго кадэнцыя прынясе шмат незвычайнага. Дутэртэ агучыў план працы новага ўраду. Першай задачай каманды стане бязлітасная вайна з крыміналам, дэвізам якой сталі словы кіраўніка дзяржавы: «Трэба забіць іх усіх!» На самай справе, забіваць злачынцаў не будуць. Проста ствараецца дзяржаўны фонд, з якога будуць плаціць за выдачу злачынцаў паліцыі. Ганарары абяцаныя вельмі салідныя. Напрыклад, за аднаго гандляра наркотыкамі можна будзе атрымаць прыкладна 100 тысяч долараў. Усяго на праграму праз розныя крыніцы плануюць прыцягнуць каля 5 мільярдаў долараў. На думку Дутэртэ, гэтага хопіць, каб знішчыць злачынствы. Нагадаем, што горад Даваа, мэрам якога быў цяперашні прэзідэнт, сапраўды адзін з сусветных лідараў па колькасці злачынстваў. Між іншым, падчас прэзентацыі праграмы Дутэртэ заклікаў грамадства разглядаць журналістаў, якія будуць крытыкаваць яго антыкрымінальную кампанію, як саюзнікаў злачынцаў.

**Паводле нямецкай прэсы**

### АРМЕНІЯ. Помнік лідару калабарацыі ці герою?

У Ерэване адкрыты помнік Гарэгіну Нждэ (1886–1955) — армянскаму вайсковаму і палітычнаму дзеячу, які ў тым ліку вядомы супрацоўніцтвам з нацыстамі. Будучы ў эміграцыі пасля падзення незалежнай Арменіі, ён наладзіў сувязі з кіраўніцтвам нацысцкай Германіі, сустракаўся з рэйхсміністрам Альфрэдам Розенбергам, удзельнічаў у Каўказскім блоку з прадстаўнікоў эміграцкіх арганізацый каўказскіх народаў, на платформе падтрымкі Германіі як будучай «вызваліцельніцы Каўказа ад савецкага панавання». Напрыканцы вайны Нждэ арыштавалі і вывезлі ў СССР. Самае цікавае, што палітыка не пакаралі смерцю, а далі 25 гадоў турмы, дзе ён і памер у 1955-м. Менавіта на гэты факт звяртаюць увагу тыя, хто абараняе спадчыну Нждэ. Не кажучы пра тое, што ён быў героем абароны Арменіі ад турэцкага войска ў часы грамадзянскай вайны. Самае цікавае, што стварэнне помніка прапанаваў цяперашні армянскі ўрад, вядомы сваімі прарасійскімі поглядамі. Можна выказаць здагадку, што за кошт публічнай павагі да легендарнага палітыка ўлада намагаецца ўзняць свой рэйтынг сярод армянскіх нацыяналістаў.

**Паводле армянскай прэсы**

# Без Вялікабрытаніі будзе лепш

Алег НОВІКАЎ




Фота www.youtube.com

**Напярэдадні рэферэндуму наконт выхаду Вялікабрытаніі са складу ЕС прыхільнікі еўраінтэграцыі ва Усходняй Еўропе ўсё часцей кажуць, што Еўрасаюз без Лондану дасць шанец на развіццё іх рэгіёну.**

Нават сама такая пастаноўка пытання на першы погляд падаецца крамольнай. Як можа Усходняя Еўропа выступаць за Brexit (так пачалі назваць гісторыю з выхадам Вялікабрытаніі з ЕС) з улікам негатыўных эфектаў, якія дакладна пацягне за сабой брытанская адмова ад еўраінтэграцыі? Перш за ўсё, усходнім еўрапейцам давядзецца зацягнуць паясы. Калі Лондан не будзе рабіць свой унёсак у еўрабюджэт (на цяперашні момант 1,7 мільярда фунтаў штогод), памеры фінансавай дапамогі для так званых «новых сябраў» прыйдзецца скараціць. Для тых жа балтыйскіх дзяржаў, дзе 20–30 працэнтаў бюджэту фармуецца за сродкі Брусэля, гэта фактар магчымай эканамічнай нестабільнасці.

Адаб'ецца Brexit і на індэксах вытворчасці. Польскі філіял французскага банку ўжо прапанаваў калькуляцыю на гэты конт. Паводле разлікаў эканамістаў, пасля сыходу Вялікабрытаніі на ўсходзе ЕС скароціцца экспарт, што, у сваю чаргу, паўплывае на памеры інвестыцый, ствараючы эфект даміно для іншых сектараў і тэмпаў росту. Увогуле, Brexit прывядзе да скарачэння валавога ўнутранага прадукту Польшчы на 0,5 працэнтных пункта на працягу года, у Чэхіі прагназуецца зніжэнне на 0,35, у Венгрыі — на 0,78 працэнтных пункта і, нарэшце, на 0,39 пункта — у Румыніі.

Наступны негатыўны эфект магчымага сыходу Вялікабрытаніі — міграцыя. Пасля таго, як грамадзяне краін Усходняй Еўропы не змогуць вольна працаўладкавацца ў Брытаніі, яны, відавочна, будуць шукаць вакансій у Германіі, Францыі, Скандынавіі, дзе пытанне міграцыі і без іх напружанае. Ціск палякаў, румынаў, балгар на працоўны рынак той жа ФРГ будзе спрыяць росту ксенафобіі. У такой грамадскай атмасферы праекты пашырэння ЕС за кошт Украіны або Грузіі наўрад ці будуць карыстацца шырокай падтрымкай.

З сыходам Лондана, як піша «Украінская праўда», у ЕС будзе аслаблена антымаскоўская плынь. «Хаця Брытанія і не прымае такога ўдзелу ва ўрэгуляванні расійска-ўкраінскага канфлікту, як Германія і Францыя, гэтая краіна традыцыйна ўваходзіць у лік найбольшых крытыкаў Крамля. Брытанія — гэта дзяржава, дзе расійская прапаганда не мае вялікага ўплыву, а грамадскасць і СМІ надзвычай крытычна настроеныя ў дачыненні да РФ», — піша выданне. Сапраўды, у Крамлі вельмі задаволеныя працэсамі на Альбіёне. Блізкае да Крамля выданне «Взгляд» адзначае: «Калі зараз Лондан і Брусэль страцяць вектар стратэгічнага ўзаемнага партнёрства, то пануючая роля ў ЕС пяройдзе да Парыжа і Берліна. Адным словам, ЕС стане палітычна больш незалежны ад Вашынгтона».

Аднак шмат хто падзяляе думку, што працяг знаходжання Вялікабрытаніі ў еўрапейскім клубе пагражае значна больш адмоўнымі наступствамі. Такая пазіцыя будуецца на некаторых аспектах Brexit. Як вядома, за ініцыятывай правядзення плебісцыту першапачаткова стаяў кансерватыўны кабінет Дэвіда Кэмерана, які насіўся з ім падчас выбарчай кампаніі. Без торы парламент таксама не прагаласаваў бы за правядзенне ўсенароднага апытання. Пасля прыняцця адпаведнай пастановы ў падзеі нечакана ўмяшаліся эмісары з Брусэлю. Кансультацыі, якія цягнуліся доўга і даўно, набылі інтэнсіўны фармат, і ўвесну быў знойдзены кампраміс. Так, унёсак Лондану ў бюджэт ЕС скараціўся амаль напалову. Як следства, былыя крытыкі ЕС у асобе Кэмерана, наадварот, сталі гарачымі аматарамі еўраінтэграцыі.

У выпадку, калі Вялікабрытанія пасля 23 чэрвеня застанецца ў ЕС, мы атрымаем прэцэдэнт паспяховага шантажу

**Калі Вялікабрытанія пасля 23 чэрвеня застанецца ў ЕС, мы атрымаем прэцэдэнт паспяховага шантажу аднаго з нацыянальных урадаў на адрас Брусэля**

аднаго з нацыянальных урадаў на адрас Брусэля. Хто цяпер дасць гарантыю, што нейкі іншы ўрад еўраскептыкаў не запатрабуе ад цэнтру падобных бонусаў? Тым больш, што кансерватары сфармавалі свой партыйны інтэрнацыянал, куды зараз уваходзіць польская ўрадавая партыя «Права і Справядлівасць». ЕС давядзецца зноў кулуарна шукаць кампраміс, што, у сваю чаргу, яшчэ раз кідае цень на імідж Еўрасаюза як аб'яднання з празрыстым прынцыпам пошуку рашэнняў.

«У той час, як кароткатэрміновыя наступствы галасавання 23 чэрвеня для эканомікі рэгіёну будуць абмежаванымі, Brexit аслабіць аўтарытэт ЕС, ствoрыць уражанне, што праект аб'яднання пачынае зварочвацца. Гэта знізіць давер усходнееўрапейскіх урадаў да Брусэлю, будзе штурхаць іх да самастойнай выпрацоўкі ўнутранай палітыкі або да спроб атрымаць саступкі», — адзначае брытанская аналітычная ўстанова «Capital Economics».

Таксама не факт, што 23 чэрвеня 2016-га — апошні плебісцыт на тэму знаходжання ў ЕС, у тым ліку на Альбіёне. Брытанская прэса прагназуе, што Кэмерана на пасадзе лідара кансерватараў хутка зменіць Барыс Джонсан, экс-мэр Лондана, кіраўнік еўрафобскай фракцыі ўнутры партыі кансерватараў. Згодна прагнозам, Джонсан зойме пасаду старшыні партыі ў 2020-м, і пасля гэтага пачнецца новы цыкл падрыхтоўкі да рэферэндуму пра выхад краю з ЕС. Тое, што брытанцаў заўсёды будзе цягнуць на антыеўрапейскія дэмаршы, цалкам лагічна — з улікам традыцыі мясцовай палітычнай думкі. Еўрапейскі дом, паводле брытанскіх палітолагаў, павінен выглядаць як нешта аморфнае, калі кожная краіна захоўвае сваю валюту, асобны МЗС і, пажадана, візавы рэжым.

Іншымі словамі, сяброўства Вялікабрытаніі, дзе пануе такі дыскурс, ставіць на нейкі час крыж на праекце трансфармацыі ЕС у сапраўдны кансалідаваны геапалітычны полюс. А вось калі пазбавіць Лондан прапіскі ў Еўрасаюзе, еўрафобскія партыі ўнутры аб'яднання адразу набудуць адзнакі маргінальных. Ані Польшча, ані Венгрыя, ані Чэхія (краіны, дзе цяпер пры ўладзе еўраскептыкі), не маюць рэсурсу займацца сабатажам працэсаў еўраінтэграцыі.

Хто мае рацыю ў гэтых дэбатах, сказаць цяжка. Не толькі таму, што зараз аматараў і праціўнікаў ЕС у Вялікабрытаніі 50 на 50. Перамога прыхільнікаў сяброўства Вялікабрытаніі ў ЕС або іх катастрофа можа паўплываць на палітычную дыскусію ў самой краіне. У такім разе цяперашняе разуменне самімі грамадзянамі Вялікабрытаніі сваёй ролі ў еўрапейскім працэсе будуць пераглядацца — і незразумела, у які бок.

# Чаго чакаць ад Еўра–2016?

Алег НОВІКАЎ

**У Францыі стартуе чэмпіянат Еўропы па футболе, які стане падзеяй не толькі спартовай, але культурнай, і нават палітычнай.**



Фота www.hotelwaldorf.fr

Чэмпіянат Еўропы–2016 загадзя забраніраваў за сабою месца ў гісторыі. Гэта будзе першы турнір такога ўзроўню, які пройдзе ў краіне, дзе на момант спаборніцтваў дзейнічае рэжым надзвычайнага становішча. Яно было ўведзенае ў Францыі пасля серыі тэрактаў у лістападзе 2015 года. З тых часоў тэрарысты быццам бы суцішыліся, але градус напружанасці ў краіне застаецца вельмі высокім.

Прэзідэнт Франсуа Аланд днямі прызнаўся, што пагроза тэрактаў падчас чэмпіянату застаецца, нягледзячы на каласальную колькасць мабілізаваных на ахову парадку — 75 тысяч паліцэйскіх, 12 тысяч супрацоўнікаў у цывільным плюс 13 тысяч агентаў прыватных ахоўных фірм. Лічба вялікая, аднак ці хопіць гэтага, каб выявіць экстрэмістаў сярод 8 мільёнаў тыфозі і 2,5 мільёна тых, хто збіраецца непасрэдна наведаць стадыёны?

Тэрарысты — гэта яшчэ не ўсё. Сінонімам Еўра–2016 стане транспартны калапс. Францыю накрыла хваля забастовак, дэманстрацый і іншых акцый пратэсту супраць рэформы працоўнага кодэксу. Прафсаюзы, натуральна, паспрабуюць выкарыстаць вельмі важны для краіны ў іміджавым плане турнір, каб выгандляваць нейкія саступкі. Прынамсі, пра намер абвясціць страйк адразу пасля пачатку чэмпіянату ўжо заявілі пілоты Air France — самай буйной нацыянальнай авіякампаніі. У дадатак перад стартам чэмпіянату Еўропы на Францыю абрынулася стыхійнае бедства ў выглядзе найбольшай за сто гадоў паводкі. Набярэжныя затопленыя, некаторыя станцыі метро дасюль закрытыя.

Вяртаючыся да надзвычайнага становішча, можна сказаць, што ад яго больш пакутуюць не экстрэмісты, а ўкраінскія фанаты. Напярэдадні турніру сотні заўзятараў адмовілі ў выдачы візы, а яшчэ больш наогул не змаглі падаць дакументы. Французскія дыпламаты кажуць, што валакіта звязана з надзвычайным становішчам. Да справы падключыўся нават украінскі прэзідэнт, які звярнуўся да французскага калегі з просьбай паскорыць вырашэнне пытання.

Усё гэта сведчыць, што без палітычнага піяру на Еўра–2016 не абыдзецца. Цікава, што на футболе робіць піяр таксама і праціўнікі Парашэнкі. Мікола Азараў, прэм'ер Украіны ў часы Януковіча, які хаваецца ў Маскве, актыўна нагадвае аўдыторыі пра Еўра–2012, якое, як вядома, прымалі Украіна і Польшча. Азараў сцвярджае, што спартовыя мерапрыемствы такога маштабу Украіна, з-за наступстваў Рэвалюцыі Годнасці, не здольная будзе прымаць яшчэ вельмі доўга. Праўда, не згадваючы, што той чэмпіянат ва Украіне стаў сімвалам карупцыі.

Як не смешна, у суседняй Расіі хапае і тых, хто будзе жадаць расійскай зборнай паразы ў Францыі. Гэта квасныя патрыёты, якім не падабаецца практыка натуралізацыі іншаземцаў, каб яны пасля гулялі за Расію. У цяперашняй зборнай РФ такіх некалькі, прычым адзін з іх — Раман Нойштэдтэр, былы грамадзянін ФРГ украінскага паходжання, які раней неаднаразова прызнаваўся ў любові да Украіны.

**Еўра–2016 — першы турнір, які пройдзе па новай схеме. У верасні 2008 года выканкам УЕФА пастанавіў, што на Еўра–2016 упершыню згуляюць 24, а не 16 камандаў. Дзякуючы гэтаму ў спаборніцтвах прымуць удзел шэраг клубаў другога еўрапейскага эшалону. Як следства, гледачоў чакае знаёмства з невядомай футбольнай Еўропай**

Піярыцца будуць і палітыкі па-за межамі СНД. Брытанскія еўрафобы спадзяюцца, што добрыя выступы брытанскіх зборных (у Францыю выправіліся каманды Англіі, Уэльса і Паўночнай Ірландыі) выклічуць выбух нацыянальнай годнасці, што, у сваю чаргу, адаб'ецца на выніках рэферэндуму пра выхад Вялікабрытаніі са складу ЕС, які прызначаны на 23 чэрвеня.

Палітычны скандал мясцовага французскага разліву можа выклікаць і заява чарнаскурага французскага футбаліста Карыма Бензэмы, які патлумачыў сваё неўключэнне ў зборную як змову белых расістаў. Бензема актыўна падбівае іншых футбалістаў з чорнай скурай да акцый пратэсту і нават абяцае пайсці ў суд. Марын Ле Пэн, лідар Нацыянальнага Фронту, парыравала заяву футбаліста тым, што словамі пра расізм той хавае сваю слабасць. Зараз канфлікт набірае абароты.

На фоне такіх палітычных падзей праблема футбольных хуліганаў падаецца нейкай дробяззю. Аднак на самай справе Еўра–2016 можа адзначыцца буйнымі сутычкамі паміж фанатамі. У французскіх СМІ ужо назвалі найбольш небяспечныя для грамадскага парадку матчы. Гэта Англія — Расія (11 чэрвеня), Турцыя — Харватыя (12 чэрвеня), Англія — Нідэрланды (12 чэрвеня), Германія — Польшча (16 чэрвеня) і, нарэшце, Украіна — Польшча (21 чэрвеня). Чакаецца таксама, што фанаты могуць арганізаваць бойку па-за трыбунамі. Быццам бы, фанаты Расіі і Турцыі ўжо прызначылі месца сустрэчы, каб памерацца сіламі. Не дапусціць бойкі павінен спецыяльны штаб, які складаецца з 200 спецыялістаў.

У той жа час Еўра–2016 — першы турнір, які пройдзе па новай схеме. У верасні 2008 года выканкам УЕФА пастанавіў, што на Еўра–2016 упершыню згуляюць 24, а не 16 камандаў. Дзякуючы гэтаму ў спаборніцтвах прымуць удзел шэраг клубаў другога еўрапейскага эшалону. Як следства, гледачоў чакае знаёмства з невядомай футбольнай Еўропай і яе кумірамі. Напрыклад, няма сумневаў, што нам бліжэйшым часам прыйдзецца неаднаразова пачуць пра 40-гадовага венгерскага галкіпера Габара Кірая, які праславіўся сваімі старамоднымі трыко, у якіх ён традыцыйна выходзіць на поле.

Ну і, нарэшце, акрамя палітычных, эканамічных, расавых скандалаў і інтрыг нас чакае і цікавы футбол. Аналітыкі вылучаюць пяць асноўных лідараў Еўра–2016: Францыю, Іспанію, Англію, Германію і Італію. Гэта вельмі шмат для звычайнага турніру. Таму ёсць падставы спадзявацца, што Еўра–2016 аформіць сабе прапіску ў гісторыі ўсё ж дзякуючы ўпартым і непрадказальным гульням.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Тахтар Туляшаў



Казахскі бізнесмен, бацька трынаццаці дзяцей, быў арыштаваны яшчэ 30 студзеня па незразумелых прычынах (падчас арышту бізнесоўцу паказалі наркотыкі, якія быццам бы ён хаваў). Уладальніка завода «Шымкентпіва» нечакана для ўсіх абвінавацілі ў арганізацыі спробы дзяржаўнага перавароту. Этапамі гэтай спробы, нібыта, былі шматлікія мітынгі супраць перадачы зямлі ў доўгатэрміновую арэнду замежнікам і вылазка ісламскіх экстрэмістаў у Акцюбе 5 чэрвеня, дзе было забіта каля 20 чалавек.

У антыдзяржаўнай дзейнасці Туляшаву, калі верыць афіцыёзу, дапамагаў шэраг высокапастаўленых чыноўнікаў і вайскоўцаў, сярод якіх — былы намеснік генпракурора краіны, паліцэйскі генерал, палкоўнік, некалькі камандзіраў вайсковых частак.

Навіна пра пераварот паставіла шмат каго ў тупік. Сваёй заявай улады самі сябе абверглі: спачатку гутарка ішла пра тое, што апошнія пратэсты арганізаваў Захад і яго «пятая калона» ўнутры краіны. Справа Туляшава можа набыць незвычайны паварот. Бізнесовец, які ўяна калекцыянаваў тытулы, акрамя ўсяго з'яўляецца дарадцам вярхоўнага атамана Казахстана па ўмацаванні саюзніцкіх адносін з Расіяй, паўнамоцным прадстаўніком Рускай абшчыны Казахстана, членам Саюза журналістаў Расіі. Так што, пры вялікім жаданні, можна знайсці ў антыўрадавай змове і след Масквы.

### Махамед Абдэльазіз



Лідар вайскова-палітычнага руху Polisario Front, які з пачатку 1970-х гадоў вядзе вайну за незалежнасць рэгіёну Заходняя Сахара, памёр на 69-м годзе жыцця, пакінуўшы спадчыну ў выглядзе, напэўна, самай паспяховай у свеце непрызнанай краіны — Сахарскай Арабскай Дэмакратычнай Рэспублікі (SADR). Гэты край спачатку належаў іспанцам, а пасля стаў часткай Марока.

SADR мае свае офісы ў шматлікіх міжнародных структурах, уключаючы Еўрасаюз і ААН. Тут ходзіць свая валюта — сахарскія песеты. Нарэшце, праз падтрымку СССР і Алжыра ў 70–80-я гады краіна была багата кім прызнаная, у тым ліку такімі буйнымі краінамі, як Мексіка, Балівія і іншымі. Сахарцам удалося дамагчыся таго, каб генсек ААН афіцыйна назваў прысутнасць мараканцаў у рэгіёне «акупацыяй».

З іншага боку, Polisario Front пра Абдэльазізе не дасягнуў сваёй меты — большая частка Заходняй Сахары знаходзіцца сёння пад кантролем Марока і Маўрытаніі, ААН у выніку так і не даў згоды на рэферэндуму аб статусе краю. Не выключана, што памяркоўнага Абдэльазіза на пасадзе лідара Polisario Front можа замяніць нейкі радыкал, вынікам чаго ў Афрыцы на адзін вайсковы канфлікт будзе больш.

### Яўген Мураеў



Экс-рэгіянал, дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны, абраны ад мажарытарнай акругі ў Харкаўскай вобласці, былы сябра фракцыі партыі «Апазіцыйны блок» нечакана вырашыў пакінуць сваіх паплечнікаў. Мураеў, які фактычна быў візітоўкай «Апблоку» на вядучых палітычных шоў, заявіў пра выхад з гэтай структуры. Матывам для такога рашэння стала, па яго словах, «жаданне большай свабоды манёўру для прыняцця рашэнняў і гатоўнасць да больш актыўных дзеянняў».

Аналітыкі мураеўскі сыход у «вольнае плаванне» разглядаюць як уверцюру ды стварэння ім новай апазіцыйнай партыі, якая будзе трымаць дыстанцыю ад «Апблоку», які, як вядома, кулуарна дамаўляецца з Парашэнкам. Раней з «Апблоку» са скандалам выйшаў яшчэ адзін нардэп — алігарх Вадзім Рабіновіч, які на прэзідэнцкіх выбарах 2014 года атрымаў 22 працэнты галасоў. Хутчэй за ўсё, Рабіновіч і Мураеў складуць тандэм, які будзе шукаць падтрымку на Паўднёвым Усходзе Украіны.

Цікава, што Мураеву, які заўзята крытыкуе Майдан, забаронены ўезд у Расію, а на яго прыватным тэлеканале вядомыя ўкраінскія нацыяналісты кшталту Ляшко або Карчынскага маюць свае аўтарскія праграмы. Усё гэта сведчыць пра тое, што Украіна на парозе новага палітычнага цыклу, які будуць вызначаць новыя твары з новымі палітычнымі тэхналогіямі.




Аўтамабілі Шэўрале падчас 11 міжнароднага ралі ў 1938 г.



Падчас гонкі ў Заходняй Беларусі




Падчас ралі

# «Дакар» па-беларуску ў 1920–1930 гады



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У міжваеннае дваццацігоддзе заходнебеларускія тэрыторыі сталі папулярным палігонам для праверкі якасці і магчымасцяў сусветных аўтамабільных брэндаў.**

## Граф-аўтааматар і першыя ралі

Яшчэ ў снежні 1909 года ў варшаўскім гатэлі «Брысталь» адбыўся арганізацыйны сход Таварыства аўтамабілістаў Царства польскага. Старшынёй арганізацыі быў абраны багаты землеўласнік з Гарадзеншчыны і Палесся, граф Уладзіслаў Друцкі-Любецкі (менавіта ён у канцы XIX стагоддзя пабудаваў палац у Шчучыне). У 1913 годзе пры таямнічых абставінах памешчык быў забіты, праз год пачалася Першая сусветная вайна, потым Польшчы давялося біцца за незалежнасць з агрэсіўнымі суседзямі, і мір на польскую зямлю прыйшоў толькі ў пачатку 1920-х гадоў.

Паслядоўнікам даваеннага Таварыства аўтамабілістаў стаў Аўтамабільны клуб Польшчы, які ўжо ў чэрвені 1921 года арганізаваў гонку па трасе Варшава — Белавежа — Варшава, пераможцам якой стаў Тадэвуш Хэйн на «Доджы». Праз год аўтамабільнае свята паўтарылі, але ўжо па іншым маршруце. Гонкі мелі міжнародны характар, у іх удзельнічалі замежнікі на лепшых узорах тагачаснага аўтапрама. Аўтааматары Другой Рэчы Паспалітай імкнуліся паўтарыць поспех самых вядомых тагачасных аўтагонак, якія праходзілі ў Монтэ-Карла.

Усяго з 1921 па 1939 гады адбылося дванаццаць Польскіх міжнародных аўтаралі, большасць з якіх праходзіла і па беларускіх землях. У 1924 годзе маршрут гонкі захапіў Пружаны з Кобрынам, а ўвогуле траса складала 2483 кіламетраў. Праз год Аўтамабільны клуб Польшчы арганізаваў чарговы рэйд, які меў назву «Вакол Польшчы» і складаўся з сямі этапаў. Яго працягласць была ўнушальнай — 3680 кіламетраў.

На першым этапе ўдзельнікам прапанавалася праехаць з Варшавы ў Вільню, а адтуль — у Слонім і Тарнопаль. У тагачасным польскім выданні «Спартовы агляд» адзначалася: «Галоўнай узнагародай конкурсу будзе вялікі залаты медаль, які будзе ўручаны фабрыцы, на якой зроблена машына. […] У гэтым годзе ў ралі прымаюць удзел і некалькі польскіх машын, сярод якіх варта вылучыць «Ralf Stetysz». […] Найбольш цяжкім участкам трасы будуць дарогі ў Палессі, на якіх кіроўцы змогуць убачыць, на што здольныя іх «жалезныя коні». […] Пераможца этапу Вільня — Слонім атрымае прыгожы срэбны кубак». Польскі «Ralf Stetysz» на тых гонках паказаў сябе вельмі добра.

## Узлёт і падзенне брэнда

Бацькам-заснавальнікам згаданай польскай маркі быў граф Стэфан Тышкевіч. У 1915 годзе ён скончыў афіцэрскую школу ў Санкт-Пецярбургу, быў ад'ютантам вялікага князя Мікалая Мікалаевіча Раманава. Падчас польска-бальшавіцкай вайны змагаўся з Чырвонай Арміяй на Віленшчыне. Пасля вайны арганізаваў пад Парыжам акцыянерную кампанію «Automobiles Ralf Stetysz». Назва была звычайным скарачэннем ад «Сель-




скагаспадарча-авіяцыйная фабрыка Стэфана Тышкевіча».

Сваю машыну граф абсталяваў амерыканскім рухавіком фірмы «Continental». Тышкевіч імкнуўся зрабіць таннае аўто, якое можна без праблем выкарыстоўваць на польскім бездарожжы. У 1926–1927 гадах прадукцыя завода была прадстаўлена на Міжнароднай выставе ў Парыжы, дзе яе назвалі зручнай для выкарыстання ў калоніях. А ў 1929 годзе «Ralf Stetysz» удзельнічаў у VIII ралі ў Монтэ-Карла.

У канцы 1920-х гадоў завод быў пераведзены ў Варшаву, аднак пазней на ім адбыўся вялікі пажар, які знішчыў вытворчасць. Граф спрабаваў аднавіць выпуск машын, аднак безвынікова. У пачатку Другой сусветнай вайны Стэфан Тышкевіч пераехаў у Літву, пасля анексіі краіны СССР аказаўся ў руках НКУС. Яго, як і іншых польскіх грамадзян, уратавала Армія Андэрса. У яе шэрагах ён змагаўся з нацыстамі ў складзе Другога польскага корпуса. Пасля вайны жыў у Лондане і разам са Станіславам Мацкевічам выдаваў штотыднёвік «Львоў і Вільня». Памёр Стэфан Тышкевіч у 1976 годзе.

## На мяжу з Саветамі і нарачанскія азёры

Яшчэ раз шыкоўныя машыны з усёй Еўропы заехалі ў Заходнюю Беларусь у 1928 годзе, калі быў зроблены «курортны» рэйд. Удзельнікі ралі выехалі з Варшавы ў бок Вільні, а адтуль завіталі ў Друскенікі і, праехаўшы Навагрудскае і Палескае ваяводствы, накіраваліся праз Луцк і Крыніцу назад — у сталіцу Польшчы. У гонцы ўдзельнічала 28 экіпажаў, а пераможцам стаў італьянец Кіпрыяна Ільяна на «Фіяце 509».

**Траса праходзіла побач з дзяржаўнай мяжой з БССР, і госці з цікавасцю разглядалі памежныя слупы на «рыжскім кардоне». А з таго боку за дарагім аўтамабільным картэжам назіралі «зялёныя фуражкі»**

У Дзявятым міжнародным ралі, якое праходзіла ў чэрвені 1930 года, удзельнічалі машыны трох катэгорый: «папулярныя» аўто (кошт якіх быў не вышэй за 1500 доляраў ЗША), турыстычныя (кошт каля 3000 доляраў) і аўто прадстаўнічага класа (кошт вышэй за 3000 доляраў). Удзельнікам заезду прыйшлося праехаць 3100 кіламетраў.

Ралі пачыналася ў Варшаве, адкуль гоншчыкі ехалі праз Горадню ў Вільню, а далей — праз Навагрудак у памежны Нясвіж. Траса праходзіла побач з дзяржаўнай мяжой з БССР, і госці з цікавасцю разглядалі бела-чырвоныя і чырвона-зялёныя памежныя слупы на «рыжскім кардоне». А з таго боку за дарагім аўтамабільным картэжам, які складаўся з «Фордаў», «Сітраенаў», «Фіятаў», «Хадсанаў», «Рэно», «Аўстра-Даймлераў» і іншых аўто, з бінокляў назіралі «зялёныя фуражкі» з 17-га Цімкавіцкага атрада памежных войскаў НКУС БССР.

Наступнай гонкі давялося чакаць сем гадоў. Звязана гэта было, перш за ўсё, з эканамічнай рэцэсіяй, якую перажываў «капіталістычны» свет. Летам 1937 года адбылося Дзясятае ралі польскага аўтамабільнага клуба, у якім, апроч айчынных аўтамабілістаў, удзельнічалі прадстаўнікі Германіі, Аўстрыі і Чэхаславакіі. Кіроўцы праехалі больш за 2,5 тысячы кіламетраў. Другі этап гонкі праходзіў праз Горадню, Слонім і Белавежу.

Па дарогах Заходняй Беларусі, сярод іншых, ехалі «Шэўрале», «Форды», «Адлеры», «Мерседэсы», «Фіяты» і іншыя сусветна вядомыя тады аўтамабільныя маркі. Перамогу атрымалі польскія кіроўцы Тадэвуш Марэк на аўтамабілі «Опель Алімпія», Войцэх Калачкоўскі на «DKW», Аляксандр Мазурэк на «Шэўрале Майстар». У катэгорыі лёгкія аўто першым быў немец Паўль фон Жулімэ на «Адлер Трыумф».

Праз год аўтамабілісты «паехалі» ў курортную заходнебеларускую Нарач. Гонка стартавала з Варшавы і накіроўвалася ў рыбацкую вёску Купа, дзе знаходзіліся буйны прычал для яхт і будынкі дзвюх турбаз: школьнай і турбазы Польскай марской і каланіяльнай лігі. У канцы 1930-х гадоў гэты населены пункт быў адным з папулярных турыстычных цэнтраў ва ўсходніх ваяводствах Другой Рэчы Паспалітай. Сітуацыя яшчэ больш палепшылася ў 1937 годзе, калі ў Купы са Свянцян была праведзена вузкакалейная чыгуначная дарога.

Вось як апісваў гонку карэспандэнт «Спартовага агляду»: «Спадар Весэлі (нямецкі гоншчык. — І.М.) замедліў рух, а тым часам «Б'юік» чакаў на нас у Купе. Калі б мы яго нагналі раней, то маглі б пазмагацца, і хто ведае, чым бы гэта скончылася. […] За намі едзе калона машын. Іх з-за пылу не бачна. Дарогу ўказваюць толькі вяршыні дрэў. […] Перад Горадняй мы «ўкліньваемся» ў групу «Мерседэсаў», а ў самім горадзе абганяем «Шэўрале». Праз пыл нічога не бачна. З імглы з'яўляюцца коні і ровары. Час ад часу механік укладае кіроўцы ў вусны запаленую сігару. Пасля кожнай перамогі спадар Весэлі радасна размаўляе з камандай і журналістамі па-нямецку, з механікам па-англійску, а з кантралёрам — па-французску».

Адзін з удзельнікаў ралі ў інтэрв'ю польскаму журналісту прызнаўся, што найбольш цяжкім участкам гонкі быў «кавалак» паміж Нараччу і Нясвіжам, дзе былі ў асноўным грунтавыя дарогі. Але і там гоншчыку ўдавалася ўтрымліваць высокі хуткасны рэжым.

## Вайна грукае ў дзверы

Нягледзячы на пазітыўныя ноткі ў тагачасных публікацыях, якія тычыліся Адзінаццатага агульнапольскага ралі, у шматлікіх артыкулах адчуваўся подых сусветнай вайны, якая ўжо праз год паглыне Еўропу. Журналісты ўсё часцей звярталі ўвагу на магчымасць выкарыстання тых ці іншых транспартных сродкаў у вайсковых мэтах і пазначалі, што германскія машыны выдатна падыходзяць да гэтага. У гэты ж час праводзіўся і шэраг невялікіх унутрыпольскіх ралі, у якіх удзельнічалі аўто Войска Польскага. Польскае камандаванне спрабавала выявіць моцныя і слабыя бакі тэхнікі, якая была на іх узбраенні.

Летам 1939 года адбылося апошняе перадваеннае аўтаралі, якое называлася «Гран-пры Польшчы». Маршрут яго першага этапу пачынаўся ў Варшаве і ішоў на поўдзень праз Кракаў, Львоў, Луцк да Берасця-на-Бугу. Першапачаткова сваё жаданне ўдзельнічаць у гонках выказала шмат прадстаўнікоў Трэцяга Рэйху, аднак у апошні момант яны адмовіліся. Арганізатары ралі спісалі гэта на «палітыку», ім у галаву не магло прыйсці, што праз некалькі месяцаў па польскіх дарогах будзе ездзіць шмат нямецкіх машын, але ўжо не са спартовай мэтай. Што ж тычыцца апошняй перадваеннай гонкі, то першае месца ў ёй заняла каманда польскага «Фіята».

Фота з уласнага архіву Ігара Мельнікава

# Беларус на троне Андоры

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Авантурнік маштабу Астапа Бендэра, жыццё якога і сёння застаецца таямніцай. Чалавек, які ўмеў напоўніцу выкарыстоўваць уласныя здольнасці, у тым ліку паліглота і махляра. Ён называў сябе «белым рускім, родам з Вільні» і застаўся ў гісторыі як першы і апошні кароль Андоры.**



## Нашчадак «сарака каралёў»

Барыс Скосыраў па лініі маці быў нашчадкам рыцараў-гаспітальераў, якія перабраліся з вострава Радос на Мальту. У сярэдзіне XVII стагоддзя яго продкі з роду Маўрасаў апынуліся ў Малдове, адкуль у XIX стагоддзі патрапілі ў Беларусь. Сам Скосыраў пазней прыдумаў для журналістаў гісторыю пра «сорак каралёў» сярод сваіх продкаў.

Барыс нарадзіўся па-за шлюбам 12 студзеня 1896 года. Яго бацькам быў адстаўны карнет Міхаіл Міхайлавіч Скосыраў, які працаваў земскім начальнікам у Лідскім уездзе Віленскай губерні, а маці — графіня Лізавета Дзмітрыеўна Маўрас, якая да таго ўжо паспела ўступіць у шлюб, скасаваны са згоды царквы, са сваім стрыечным братам. Скосыравы мелі маёнтак Вялікая Лебяда ў Лідскім павеце, але шмат часу праводзілі ў Вільні, дзе і нарадзіўся Барыс.

Месцам свайго навучання Скосыраў называў то Оксфард, то Ліцэй Людовіка Вялікага ў Парыжы. Але, хутчэй за ўсё, яго адукацыя абмяжоўвалася гімназіяй і хатняй адукацыяй, вынікам якой стала свабоднае маўленне на англійскай, французскай і нямецкай мовах.

## На службе брытанцаў і японцаў

Пасля акупацыі Заходняй Беларусі немцамі ў часы Першай сусветнай вайны сям'я Скосыравых з'ехала ў Пецярбург. Веданне замежных моваў дазволіла Барысу патрапіць у Брытанскі бронедывізіён, які быў пасланы на дапамогу Расіі супраць Германіі. Пасля бальшавіцкай рэвалюцыі ў 1917 годзе Барыс Скосыраў апынуўся ў Лондане.

Там Скосыраў паступіў перакладчыкам на службу ваенна-марскіх браніраваных машын, створаную Оліверам Локерам-Лэмспанам. Скосыраў удзельнічаў у барацьбе з савецкай уладай у Галіцыі, пасля чаго зноў апынуўся ў Лондане. І ўладкоўваўся перакладчыкам у дыпламатычнае прадстаўніцтва Японіі.

Але напрыканцы 1919 года Барыс Скосыраў у непрыемным кантэксце засвяціўся на старонках англійскіх газет: у яго здарыўся канфлікт з маёрам Хашыміта, у якім фігуравалі сведчанні пра бойку і залаты гадзіннік японца. У хуткім часе ён быў затрыманы Скотланд-Ярдам за незабяспечаныя чэкі пры аплаце жылля і іншых рахункаў. Не меў Скосыраў і рэгістрацыі, што патлумачыў страхам перад савецкімі дыверсантамі. Пасля абяцання аплаціць рахункі ён быў адпушчаны, а яго пазыкі сапраўды былі вернутыя. У чым, хутчэй за ўсё, дапамог яго баявы сябар Локер-Лэмпсан.

## Барон і міжнародны аферыст

Фінансавае становішча Скосырава пагаршалася, і ў 1922 годзе ён выправіўся з Альбіёна на Кантынент, у Нідэрланды, дзе прадставіўся «капітанам д'Скоссыраффым» і «баронам Экоссыраффым», які быццам бы вучыўся з прынцам Уэльскім і асабіста знаёмы з нідэрландскай каралеўскай сям'ёй.

У 1923 годзе, знаходзячыся ў Францыі, Скосыраў атрымаў ад дацкага консульства пашпарт, у якім ён быў запісаны «баронам», які меў рост 179 см, «без рэлігіі», а ў якасці прафесіі пазначана «журналіст». У 1924 годзе ён атрымаў яшчэ адзін пашпарт, так званы «нансенаўскі», названы ў гонар нарвежскага палярніка Фрыцьёфа Нансена. Апошні прапанаваў выдаваць пашпарты ад Лігі Нацый, каб яго ўладальнікі маглі ўладкоўвацца на працу і свабодна перамяшчацца па ўсім свеце.

У Нідэрландах за Скосыравым замацаваўся аўтарытэт «міжнароднага аферыста». Мясцовыя ўлады ў 1924 годзе нават уключылі яго ў спіс «вядомых замежных рэвалюцыянераў». У пошуках новых магчымасцяў ён выправіўся ў Калумбію, дзе арганізаваў фірму «Барыс дэ Скосыраў: імпарт-экспарт, прадстаўнічыя паслугі», дасканала вывучыў іспанскую мову і наступнае дзесяцігоддзе правёў у раз'ездах паміж Новым і Старым Светам, замацоўваючы за сабой новы вобраз — шпіёна і альфонса.

## Альфонс

Скосыраў ажаніўся 21 сакавіка 1931 года ў Францыі на заможнай жанчыне — Мары-Луізе Пара дэ Гасье, якая была старэйшая за яго на некалькі гадоў і не вылучалася асаблівай прыгажосцю. Сам жа Барыс выдзяляўся прывабнай знешнасцю. З ім звязвалі вялікую колькасць любоўных раманаў, чаму шлюб не перашкаджаў.

У 1932 годзе некалькі месяцаў доўжыўся яго раман з англійскай арыстакраткай Філіс Херд, пасля чаго ён пазнаёміўся з амерыканкай Флорэнс Мармон, былой жонкай аўтамабільнага фабрыканта-мільянера Говарда Мармона. Вялікія аліменты дазвалялі той весці шыкоўнае жыццё. У верасні 1933 года Скосыраў і Мармон нават былі затрыманыя ў горадзе Пальма-дэ-Мальёрка па падазрэнні ў дачыненні да какаінавага трафіку. Прыгоды Флорэнс і Барыса працягнуліся, у выніку прывёўшы іх у невялічкі куток паміж Іспаніяй і Францыяй — Андору.

## Паміж Францыяй і Іспаніяй

Андора з 988 года з'яўлялася княствам, якім з XIII стагоддзя фактычна кіравалі кароль Францыі і епіскап Урхельскі. Але пасля ўсталявання ў Францыі рэспублікі тут паўстала праблема легітымнасці ўлады, якая пагаршалася на фоне агульнай сітуацыі ў свеце, чым і скарыстаўся Скосыраў.

Пачатак 1930-х гадоў Еўропа сустрэла эканамічным крызісам, прыходам нацыстаў да ўлады ў Германіі і пагрозай новага ваеннага канфлікту. Хваля зменаў абрынулася і на Іспанію, якая ў 1931 годзе стала рэспублікай. З-за цяжкага крызісу палова краіны стала беспрацоўнай, хваляванні нарасталі, у выніку выліўшыся ў 1936 годзе ў грамадзянскую вайну. На гэтым фоне невялічкая горная Андора выглядала выспаю спакою. Але толькі выглядала.

Першым фактарам незадаволенасці стала правядзенне дарогі, якая злучыла Іспанію і Францыю, і будаўніцтва якой мясцовае насельніцтва сабатавала. Наступнай праблемай стала праведзеная Генеральным саветам (парламентам) Андоры выбарчая рэформа: абвяшчалася ўсеагульнае выбарчае права для мужчын, старэйшых за 25 гадоў. Супраць выступіла важнейшая судовая інстанцыя княства — Судовы трыбунал. Канфлікт быў настолькі востры, што ў яго вымушаны быў умяшацца прэзідэнт Францыі Альбер Лебрэн. Ён накіраваў у Андору 50 жандараў. Але не яны спынілі хваляванні жыхароў.

## Па прыкладзе Манака

У гэты час у Андору прыбыў Скосыраў, які адразу праλічыў магчымасці памежнага кутка. Зацяты гулец у казіно, ён вырашыў ператварыць горную краіну ў новы еўрапейскі ігральны цэнтр. Скосыраў стаў рэгулярна наведваць пасяджэнні Генеральнага савета Андоры, дзе распавядаў пра перспектывы краіны. Неабходна было прыняць толькі некалькі рашэнняў: адкрыцца замежным інвестыцыям, пабудаваць курорты і казіно, скасаваць падаткі, забяспечыць свабоду слова і... зрабіць Скосырава каралём Андоры.

17 мая 1934 года ён прапанаваў план рэформ у пісьмовым выглядзе, да якога прыклаў ліст ад Жана Арлеанскага, герцага дэ Гіза з роду былых каралёў Францыі. Той перадаваў Скосыраву правы на княжанне ў Андоры. Гэта занепакоіла французскія і іспанскія ўлады. Праз тыдзень Барыс быў выдвараны з княства. Але 7 ліпеня ён зноў быў у Андоры: прадстаўляў план рэформ у Генеральным савеце.

На наступны дзень, 8 ліпеня, на падставе ліста Жана Арлеанскага Андора абвяшчаецца каралеўствам. Скосыраў становіцца каралём пад імем Барыс І. За гэтае рашэнне прагаласавалі 23 дэпутаты, толькі адзін выступіў супраць. Нічога не змянілася і пры паўторным галасаванні 10 ліпеня: Скосыраў стаў каралём Андоры.




## Кароль і епіскап

Першым чынам кароль увёў новы сцяг краіны і абвясціў Канстытуцыю, напісаную ім уласнаручна. Яна складалася ўсяго з 17 артыкулаў, у якіх Андора абвяшчалася незалежнай краінай, дзе пануе роўнасць усіх перад законам, існуе поўная адмена падаткаў, абараняюцца грамадзянскія свабоды.

Францыя пагадзілася на прызнанне незалежнасці невялікага каралеўства. Не быў супраць і епіскап Урхельскі, але яго непакоіла імкненне Скосырава адкрыць у Андоры казіно. 11 ліпеня епіскап выступіў з рэзкай крытыкай новага караля ў прэсе. 12 ліпеня Скосыраў абвясціў вайну епіскапу Урхеля, але ўсе 15 андорскіх паліцэйскіх у гэты час займаліся перапісам насельніцтва і не прынялі якіх-небудзь актыўных дзеянняў.

Епіскап Урхеля, у сваю чаргу, звярнуўся са скаргай у жандармерыю Каталоніі. Адтуль у Андору прыбылі 50 іспанскіх жандараў, і 20 ліпеня Барыса І арыштавалі. Пасля гэтага ў Андоры ўсё вярнулася на ранейшыя пазіцыі, калі княствам сумесна кіравалі епіскап Урхеля і прэзідэнт Францыі.

Арыштаванага караля Андоры адправілі ў Барселону, а адтуль звезлі ў Мадрыд, дзе яго сустракала вялікая колькасць журналістаў. 31 кастрычніка 1934 года Скосыраў быў асуджаны на год турмы за парушэнне рашэння аб яго высылцы з тэрыторыі княства. Але ўжо ў лютым 1935 года ён быў вызвалены, перапраўлены ў Партугалію і апынуўся ў Францыі. Ён накіраваўся да сваёй законнай жонкі, з якой пасля гэтага пражыў больш двух дзесяткаў гадоў.

## «Непажаданы элемент»

У 1936 годзе французскія ўлады абвясцілі Скосырава «непажаданым элементам» і адправілі ў лагер для інтэрніраваных пад горадам Манд. А ў 1939 годзе ад яго затрабавалі неадкладна пакінуць Францыю, на што яму адводзілася тры дні. На гэты тэрмін яго накіравалі ў французскі канцэнтрацыйны лагер Ла Вернэ ў Ар'ежы ў Пірэнеях.

Далейшае яго жыццё выклікае шмат пытанняў. Сам Скосыраў казаў, што ён быў вызвалены немцамі ў кастрычніку 1942 года і накіраваны ў СССР. Затым было зняволенне ў Сібіры і пераезд у Заходнюю Германію.

У 1957 годзе ён развёўся са сваёй жонкай Мары-Луізай, з якой так шмат пражыў, а пазней, ва ўзросце 73 гадоў, ажаніўся з 30-гадовай немкай. Апошнія свае гады ён пражыў у нямецкім гарадку Бапард і памёр у 1989 годзе.

Так скончылася жыццё ўраджэнца Беларусі, якога журналісты называлі «сваяком усіх каралеўскіх дынастый Еўропы» і які здолеў дасягнуць уласнай мары — стаць каралём хаця б на два тыдні.



Фота www.novychas.by

# «Музыка душы» Беларусі і Італіі

Эльвіра ГАРОШКА

**Нацыянальны цэнтр мастацкай творчасці дзяцей і моладзі сабраў у сваіх сцэнах народную хараву капэлу «Раніца» і італьянскі хор «CaroLaurino».**

Творчая сустрэча пад назвай «Музыка душы» адбылася ў рамках сумеснага творча-адукацыйнага праекта «Мост дружбы: Беларусь — Італія».

Гасцям з Італіі выпала магчымасць пазнаёміцца з песеннай культурай нашай краіны ў выкананні аднаго з вядучых харавых калектываў Беларусі, неаднаразовага прызёра міжнародных фестываляў і конкурсаў — народнай харавой капэлы «Раніца» УА «Нацыянальны цэнтр мастацкай творчасці дзяцей і моладзі» (кіраўнік В. Масленнікаў).

Беларусам у сваю чаргу давялося пачуць дзівоснае выкананне італьянскіх народных спеваў. Сваёй творчасцю падзяляўся хор «CaroLaurino», кіраўнік — Вернер Рэдолфі. За сваю шматгадовую гісторыю калектыў даў каля 800 канцэртаў на папулярных сцэнах Італіі, Еўропы і Лацінскай Амерыкі.

Разынка калектыву — выкананне выключна італьянскіх народных спеваў, амаль забытых у краіне. Хор «CaroLaurino» знаходзіць словы малавядомых спеваў і адаптуе іх для сучаснага харавога выканання.

«CaroLaurino» штогод выпускае ўласныя кружэлкі. Апошняя была прысвечана 50-годдзю заснавання хору і пабачыла свет разам з кнігай пад назвай «Вы прыйшлі ў Амерыку», у якой распавядаецца пра італьянскую эміграцыю мінулага стагоддзя.

Дзякуючы сумесным праектам Беларусі і Італіі непазбежна нараджаецца цікавасць да культуры іншай краіны, да народнай музычнай творчасці, да прафесійных бакоў выканання. Усё гэта, несумненна, спрыяе далейшаму ўмацаванню творчых сувязяў паміж нашымі краінамі.




Фота www.svaboda.org

# Беларускую мову ў беларускія крамы!

**Напачатку 2016 года Мінскай гарадской арганізацыяй ГА «ТБМ імя Францыска Скарыны» было распачата ліставанне з шасцю буйнейшымі сеткамі гіпермаркетаў Беларусі (Гіпа, Green, Еўраопт, BIGZZ, Карона, ProStore).**

ТБМ прапануе сеткавым крамам:

- Арганізаваць мінімум адну касу з беларускай мовай абслугоўвання ў кожным гіпермаркеце.
- Размясціць інфармацыйныя таблічкі (паказальнікі аддзелаў, інфакіёскаў, прадукцыі і інш.) на беларускай мове.
- Даваць звесткі па гучнай сувязі на беларускай мове.
- Афармляць цэннікі на беларускай мове.
- Зрабіць беларускамоўную версію афіцыйнага сайта.

Большасць гіпермаркетаў адказалі, што прапановы ўсяго толькі прынятыя да ведама. Ад Green і ProStore адказаў мінская гарадская арганізацыя ТБМ не дачакалася.

Як заўсёды, асноўным абгрунтаваннем адмоваў была спасылка на Закон Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» і наяўнасці двух дзяржаўных моваў: рускай і беларускай.

У сувязі з гэтым яны мяркуюць, што на рускай дзяржаўнай мове можна весці гандаль, а вось на дзяржаўнай беларускай — не.

Таварыства беларускай мовы не падзяляе такога меркавання і спадзяецца, што беларускае грамадства таксама.

Трэба давесці нашы думкі да кіраўнікоў гэтых сетак, у сувязі з чым ТБМ прапануе ўсім, хто зацікаўлены, каб беларуская мова прыйшла ў вышэйадзначаныя гіпермаркеты, распачаць ліставанне з імі.

Узоры лістоў да кожнага з гіпермаркетаў прыведзены на старонках парталу tbm-mova.by. Можна таксама адсылаць электронныя звароты на афіцыйных сайтах гіпермаркетаў.

Адзін ліст на месяц у бліжэйшы да вашага дома гіпермаркет ці наогул да ўсіх адаслаць нескладана.

Калі ласка, па магчымасці дасылайце сканаваныя копіі адказаў, здымкі з прыкладамі выканання нашых з вамі прапаноў для маніторынгу сітуацыі на адмысловую паштовую скрыню mova-u-kramu@tut.by, у групу ВКонтакте ці Facebook пад назвай «Мова ў краму».

Мы верым, што да агульнага голасу сваіх пакупнікоў кіраўніцтва гіпермаркетаў прыслухаецца. Разам мы здолеем дамагчыся нашай мэты.

**Старшыня Мінскай гарадской арганізацыі ГА «ТБМ імя Ф. Скарыны» Аляксандр Давідовіч**



КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня

Всего

Кассир

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда,
ці **атрымаць бясплатна** (8029)666 45 29 (Анатоль)
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб., **квартала — 90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 557

Падпісана да друку 10.06.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.